24 лютага 2017 | № 7 (521)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10007

«Адно з самых вялікіх адкрыццяў чалавецтва»
стар. 8

**4 ХТО РЭАЛЬНЫ ЎТРЫМАНЕЦ?**

Сітуацыя, калі атрымальнік сродкаў называе частку плацельшчыкаў утрыманцам і па прычыне недастатковасці фінансавання, здаецца абсурднай




**6–7 ФАРБЫ ПАРАЛЕЛЬНАГА СВЕТУ МІКАЛАЯ ДЗЯДКА**

Экс-палітвязень, аўтар «Новага Часу» і актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок пра свае 5 гадоў за кратамі распавёў у кнізе «Фарбы паралельнага свету»

**10 ПРАФЕСІЙНЫ ПАЎСТАНЕЦ ІЛЬДЭФОНС АНЦЫПА**

Сярод удзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў была вялікая колькасць прафесійных змагароў, якія ўсё жыццё прысвяцілі барацьбе ў імя ўласных ідэалаў

**11 ЯКІЯ МЫ ГАСПАДАРЫ, ТАКІЯ І НАШЫЯ ДВАРЫ**

Двор у беларусаў здаўна быў паказчыкам паўсядзённай культуры і дабрабыту



# Пачатак ціхай рэвалюцыі

## Што агульнага ў «Марша раззлаваных беларусаў» і Рэвалюцыі Годнасці?



Сяргей ПУЛЬША

Безліч палітыкаў, экспертаў, палітолагаў сцвярджалі, што пасля ўкраінскай Рэвалюцыі Годнасці аналагічнае развіццё падзей у Беларусі немагчыма. Маўляў, вынікамі тых падзеяў стала акупацыя Крыма і вайна на Данбасе — а таму памяркоўныя беларусы ні ў якім разе не пойдуць на нават самы лёгкі рэвалюцыйны сцэнар.

Пратэсты, якія на мінулым тыдні ахапілі Беларусь, сталі найбольш масавымі за даволі доўгі час — прынамсі, з «маўклівых пратэстаў» 2011 года. У Мінску на «Марш раззлаваных беларусаў», паводле розных падлікаў, выйшла ад трох да пяці тысяч чалавек. Нечакана здзівіў Гомель, дзе сабралася каля трох тысяч пратэстоўцаў супраць «дармаедскага» дэкрэту. У іншых абласных цэнтрах маніфестантаў было меней — ад 100 да 300 чалавек.

Але, улічваючы, што раней у рэгіёнах на плошчы выходзілі ў лепшым выпадку пяць-дзесяць чалавек, і сотня падаецца вялікай лічбай.

Паралелі з Рэвалюцыяй Годнасці ў сённяшніх пратэстах напрошваюцца самі сабою. Па-першае, людзі абурыліся той несправядлівасцю, з якой да іх ставіцца ўлада. Менавіта несправядлівасць улады была рухавіком Рэвалюцыі Годнасці, як і сённяшніх пратэстаў.

Па-другое, на вуліцы выйшлі сапраўды абураныя беларусы, а не прадстаўнікі «тытульнай апазіцыі». Варта толькі згадаць, што частка той самай апазіцыі (Партыя БНФ, «Гавары праўду», Рух «За Свабоду» і інш.) ад арганізацыі гэтага мерапрыемства самаўхіліліся. Шмат хто з каментатараў адзначае: на мінскі марш выйшлі не сталыя апазіцыянеры, а зусім іншыя людзі — тыя, якія сядзяць у «Аднакласніках» і «УКантакце», каго проста задзяўблі паборы ў той час, калі ўзровень жыцця імкліва пагаршаецца, а беспрацоўе з немагчымасцю знайсці працу з годным заробкам становіцца рэальнай перспектывай.

І па-трэцяе, на пратэст выйшлі зусім не «дармаеды». Большасць з удзельнікаў акцыі сцвярджала, што яны добрасумленна працуюць і плацяць падаткі. А на маршы прыйшлі, каб выказаць салідарнасць з тымі самымі «дармаедамі» і звярнуць увагу ўладаў на гаротны стан эканомікі, паніжэнне заробкаў і павышэнне цэнаў.

А вось адрозніваюцца беларускія маршы ад украінскіх падзей нявер'ем народа ва ўласную моц. Большасць кажа: «Прайшліся, пагрукалі ў дзверы падатковай. А што далей? Яшчэ раз так пройдземся? А вынік?»

У тым і справа, што імгненнага выніку тут і быць не можа. Не далей як за два тыдні да пратэстаў Лукашэнка ў размове з прэсай казаў: «Давайце пару гадоў паглядзім, як будзе працаваць гэты дэкрэт, а там вырашым, што з ім рабіць». Адразу адкруціць назад сваё рашэнне ён не можа — таму і ўзяў паўзу, з'ехаўшы ў Сочы. Каб быў вынік, трэба нарошчваць ціск на ўладу. Трэба, каб на наступную акцыю выйшла яшчэ больш народу. Трэба, каб людзі вярнулі сабе вуліцы, і хадзілі ў цэнтр сталіцы, а не на плошчу Бангалор.

Але і зараз нельга казаць, што пратэстоўцы нічога не дамагліся. «Марш раззлаваных беларусаў» быў менавіта «дэманстрацыяй» — дэманстрацыяй незадаволенасці і абурэння. І гэтае абурэнне пачулі, што бачна па змяненні тону ўладных прапагандыстаў хаця б на тым жа тэлеканале «Беларусь 1». Раней яны агрэсіўна нападалі на «дармеадаў». Пасля дэманстрацыі рыторыка змянілася на перапрашаючую: «Калі ласка, заплаціце падатак! Усяго 20 базавых!» Можа, для БТ 20 базавых — гэта «ўсяго», але ў рэгіёнах 225 долараў лічыцца ўжо годным заробкам...




> **Лепшым выйсцем будзе «замарозка» дэкрэту: калі ён існуе, але не выконваецца**

Так што, відавочна, улада разгубілася. І не толькі ў выніку колькасці пратэстоўцаў. Але і тым, што масавы «дэсант» найбуйнейшых чыноўнікаў «у народ» дзеля тлумачэння дармаедскага падатку (які адбыўся акурат напярэдадні акцыі пратэсту) выніку не даў. Улада нарэшце пабачыла, што яна страчвае давер народу.

Ці ёсць у грамадстве патэнцыял, каб працягваць пратэсты? Ці не будзе гэта акцыя «аднаразовым стрэлам»?

Сапраўды, пяць тысячаў дэманстрантаў на вуліцах сталіцы — колькасць невялікая. Але, разам з тым, рэпартажы пра гэтую падзею ў інтэрнэце за суткі набралі каля мільёна праглядаў. Гэта паказвае, што пратэстны патэнцыял ёсць, і галоўнае — зрабіць з гледача рэпартажаў героя тых самых рэпартажаў, то бок удзельніка акцыі.

І, канешне ж, шмат што залежыць ад улады. Яна можа дзейнічаць звыкла: запусціць механізм разгону вулічных акцый і адміністрацыйных арыштаў. Але тады давядзецца развітацца з кволай пакуль нармалізацыяй адносін з Еўропай. Адмяніць дэкрэт — пра гэта ўжо было вышэй. Лепшым выйсцем зараз з'яўляецца «замарозка» дэкрэту: то бок, перавод яго ў шэраг «мёртванароджаных» дакументаў, калі ён, нібыта і ёсць, але выконваць яго падатковая не будзе.

Канешне, тыя грошы, якія добраахвотна сплацілі некаторыя «дармаеды», ніхто не верне. Аднак намагацца атрымаць падатак праз суд таксама ніхто не будзе.

Але і для гэтага таксама павінен быць ціск на ўладу. А таму акцыі супраць «дармаедскага дэкрэту» маюць патэнцыял. Пабачым, колькі народу збярэ наступная.

# Героі «Нябеснай Сотні»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Тры гады мінула ад часу крывавых расстрэлаў на кіеўскім Майдане. Вечар памяці палеглых герояў Рэвалюцыі Годнасці прайшоў у пасольстве Украіны ў Беларусі.**

На пачатку вечара ўсіх прысутных прывітаў часовы паверанinformal ў справах Украіны ў Беларусі Валер Джыгун ды заклікаў згадаць герояў «Нябеснай сотні» хвілінай маўчання. Дыпламат нагадаў, што 20 лютага 2014-га пралілося найбольш крыві за час кіеўскага Майдану, але адначасна гэта быў пераломны момант у змаганні ўкраінцаў за сваю свабоду.

«Агулам загінула каля 100 чалавек, — працягвае Валер Джыгун, — Быў сярод іх і беларус — Міхась Жызнеўскі. Ён змагаўся не толькі за Украіну, але і за Беларусь. Сёння я размаўляў з яго маці, яна акурат вярнулася з Кіева. Якраз зараз Жызнеўскаму было пасмяротна прысвоенае званне Героя Украіны».

Дыпламат таксама нагадаў, што менавіта 20 лютага 2014 года, у дзень расстрэлаў, Расія пачала акупацыю Крыма з захопам вайсковых частак ды адміністрацыйных будынкаў. Зараз на паўвостраве працягваюцца рэпрэсіі як супраць украінскіх патрыётаў, так і супраць крымска-татарскай меншасці. Усё гэта — праявы агрэсіі Расійскай імперыі, мяркуе прамоўца.

Валер Джыгун падзякаваў «Беларускаму камітэту салідарнасці з Украінай» за падтрымку пацярпелых цягам вайны ўкраінцаў. Лідар камітэту Ігар Рынкевіч падчас выступу трымаў у руках свечку ды прамовіў супольную малітву. Рынкевіч таксама адзначыў, што яго, як былога адваката, найбольш дзівіць тое, што снайперы, якія расстрэльвалі Майдан, дагэтуль не знойдзеныя.

У рамках вечару выступіла таксама кіраўніца аб'яднання «Січ» Валянціна Логвін, зазначыўшы, што найбольшай пашанай для герояў «Нябеснай Сотні» будзе дасягненне мэтаў Рэвалюцыі Годнасці, якая дагэтуль не скончаная. Беларускі паэт і бард Зміцер Захарэвіч прачытаў некалькі сваіх вершаў, напісаных падчас паездкі на фронт у 2015-м, дзе выступаў перад украінскімі байцамі.

# Сямёнаў падатак плаціць не будзе. А што з астатнімі?

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ

**Суд Цэнтральнага раёна Гомеля спыніў разгляд грамадзянскай справы Аляксандра Сямёнава супраць падатку на дармаедства — «ввиду неподведомственности».**

Напярэдадні суда стала вядома, што Гомельскі гарвыканкам прыняў рашэнне вызваліць Аляксандра Сямёнава ад выплаты падатку па прычыне знаходжання ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. І нават прапанавалі яму працу вартаўніка. Акрамя вызвалення ад падатку ў сваім іску Аляксандр патрабаваў прызнаць дэкрэт №3 неканстытуцыйным.

Гэта было ўжо другое пасяджэнне суда. І гэтым разам на суд супраць «дармаедскага» дэкрэта прыйшлі больш за 200 чалавек. Перад будынкам суда яны патрабавалі адмены дэкрэту, адстаўкі дзеючага кіраўніка краіны, які яго прыняў, а таксама распавядалі свае «дармаедскія» гісторыі.

Кагосьці скарацілі, кагосьці звольнілі, хтосьці не можа працаваць па стане здароўя, а групу інваліднасці не даюць... Усе яны былі аб'яднаныя тым, што па нейкіх прычынах не маюць працы і абавязаныя зараз сплаціць у дзяржаўную казну падатак. І ўсім ім паабяцаў аказаць дапамогу прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасці.

«Менавіта дзякуючы таму, што мы дайшлі да суда, Аляксандру Сямёнаву ўлада прынесла на талерачцы прапанову працаўладкавання, і яму адмянілі выплату падатку. Кожнаму, хто да нас звернецца, мы можам дапамагчы і правесці судовую справу гэтак жа, як справу Аляксандра Сямёнава. Безумоўна, няма ніякіх гарантый, але мы будзем рабіць усё, каб вызваліць ад падатку кожнага, хто прыйдзе да нас», — падкрэсліў актывіст прафсаюза РЭП Андрэй Стрыжак.

Нягледзячы на абяцанні знайсці залю, якая б змясціла ўсіх жадаючых, судовы працэс зноў адбываўся ў тым жа памяшканні, што і ў мінулы раз. Таму большая частка людзей засталася за дзвярамі судовай залі і на ганку будынка. Хадайніцтвы пра фота і відэаздымку суд не задаволіў, бо супраць гэтага выказаліся прадстаўнікі падатковай інспекцыі, якія прадстаўлялі бок адказчыка.

Паколькі гомельскі гарвыканкам ужо вызваліў Сямёнава ад выплаты падатку, асноўны час пасяджэння суд прысвяціў разгляду пытання аб адпаведнасці дэкрэта №3 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У абгрунтаванні сваёй пазіцыі прадстаўнікі падатковай цытавалі падатковы кодэкс, а таксама артыкул 56 канстытуцыі, у якім гаворыцца, што грамадзяне павінны ўдзельнічаць у фінансаванні дзяржаўных расходаў. Таксама яны настойвалі на тым, што дэкрэт №3 не супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнародным прававым дакументам.

Пазіцыя заяўніка ж палягала ў тым, што дэкрэт №3 усё ж супярэчыць Канстытуцыі і парушае яе артыкул №41, у якім кожнаму беларусу гарантуецца права на свабодную працу, а таксама на магчымасць працаздольнага грамадзяніна не займацца працоўнай дзейнасцю. Прадстаўнік заяўніка прававы інспектар прафсаюза РЭП настойваў, што кожны грамадзянін, які набывае нешта ў краме, аўтаматычна становіцца падаткаплацельшчыкам.

Выслухаўшы бакі, суд прыняў рашэнне спыніць справу, бо яна знаходзіцца ў кампетэнцыі Канстытуцыйнага, а не Гомельскага абласнога суда.

Прававы інспектар незалежнага прафсаюза РЭП Леанід Судаленка заўважыў, што ўлада вызваліла толькі аднаго чалавека, але за яго спінай стаяць яшчэ 400 тысяч чалавек, якія таксама вымушаныя будуць звяртацца ў суд.




# Праўда пра Курапаты

Алесь КІРКЕВІЧ

**У сталічным Палацы мастацтваў адкрылася выстава «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні», прысвечаная курапацкім расстрэлам ды аднаўленню памяці пра нацыянальны Некропаль.**

На выставе прадстаўленыя мастацкія творы, фотаздымкі, дакументы і мапы, прысвечаныя курапацкай трагедыі, аднаўленню памяці ў 1980–1990-я ды барацьбе за Курапаты ў 2000-я гады. Тут жа можна ўбачыць праекты помнікаў, якія маглі б паўстаць ва ўрочышчы: крыжы, адлятаючыя птушкі, чалавек, распяты на зорцы і г.д.

Яе стваральнікі, а гэта грамадская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў», лічаць, што ў параўнанні з першай выставай, якая прэзентавалася ў 2015 годзе, цяперашняя шырэй паказвае гістарычную тапаграфію ўрочышча Курапаты.

«Гэтая выстава — паклон народнай памяці, — падкрэсліў адзін з арганізатараў Марат Гаравы. — Паколькі архівы ў нашай краіне дагэтуль зачыненыя, мы можам абапірацца толькі на народную памяць. Мы з сябрамі адмыслова абыходзілі бліжэйшыя вёскі ў пошуках людзей, якія нешта бачылі ці чулі пра курапацкія расстрэлы 1930-х гадоў. Частка выставы заснаваная менавіта на гэтых сведчаннях».

Рыхтуючы выставу, сябры ініцыятывы размаўлялі з людзьмі, якія жылі ў ваколіцах Курапатаў. Такім чынам удалося аднавіць гістарычную тапаграфію тагачаснага ўрочышча — якой дарогай прывозілі ахвяр, дзе праходзіў плот і дзе былі вароты, як выглядала ўрочышча звонку, дзе стаялі і якія былі назіральныя вышкі, будка ахоўнікаў, дзе праходзіла прасека, дзе адбываліся расстрэлы. Уся гэтая інфармацыя прадстаўленая ў раздзеле «Тэрыторыя».

«Тое, што з Курапатамі адбываецца сёння, — падкрэсліў Марат Гаравы, — гэта вынік палітыкі ўладаў, у прыватнасці Міністэрства культуры. Хлопцы, якія стаяць у Курапатах зараз, бароняць наш гонар. Народ мае поўнае права бараніць помнікі, тым больш Курапаты — помнік міжнароднага значэння. Гэта прапісана ў Канстытуцыі».

Выстава ў Палацы мастацтваў будзе працаваць да 28 лютага.

# Курапаты: пратэстоўцы ці «Белрэканструкцыя»

Аксана КОЛБ

**З 20 лютага працягваецца супрацьстаянне актывістаў і мясцовых жыхароў з будаўнікамі фірмы «Белрэканструкцыя» з-за ўзвядзення бізнес-цэнтра.**

Маладафронтаўцы ды іншыя неабыякавыя людзі нясуць ля будпляцоўкі кругласутачную вахту. Мясцовыя жыхары, якія таксама супраць гэтага будаўніцтва, прыносяць хлопцам ежу і гарбату.

На працягу першых дзён будаўнікі паводзілі сябе вельмі нахабна, зносілі намёты, біліся з хлопцамі. А дырэктар фірмы Сяргей Несцераў падлічваў страты і разлічваў на тое, што іх кампенсуюць пратэстоўцы.

Аднак ужо 22 лютага сітуацыя пачала мяняцца. Па-першае, актывісты перадалі ў Мінгарвыканкам зварот супраць будаўніцтва з сотнямі подпісаў мясцовых жыхароў.

У звароце адзначаліся парушэнні падчас перадачы кавалку зямлі па Мірашнічэнкі, 53 спачатку ў арэнду, а пасля пад узвядзенне 5-павярховага офіснага будынку. А таксама пра тое, што на месцы будоўлі трывае бестэрміновая вахта.

Адзін з аўтараў звароту, Павел Севярынец, лічыць, што тут мае месца не толькі знявага памяці ахвяраў курапацкіх расстрэлаў 1930-х гадоў, але яшчэ і карупцыйны складнік. Актывісты таксама апелююць да таго, што за магчымыя ахвяры ды няшчасныя выпадкі падчас супрацьстаяння на месцы будоўлі некаму давядзецца несці адказнасць.

А па-другое, ці то ўлады, ці то забудоўшчык вырашылі дзейнічаць больш радыкальна. У ноч на 23 лютага (прыкладна а 4-й гадзіне) на лагер пратэстоўцаў быў здзейснены напад.

Каля 15 чалавек у чорным з закрытымі балаклавамі і шалікамі тварамі з'явіліся з-за рогу будаўнічага плоту ды з крыкамі «Белая раса!» і «Славяне!» накінуліся на валанцёраў. У руках некаторых нападнікаў былі драўляныя кіі. Пасля кароткай сутычкі нападнікі зніклі ў лесе.

Сур'ёзных траўмаў у актывістаў няма, але журналісту НЧ Алесю Кіркевічу драўляным кіем рассеклі галаву.

Пасля нападу актывіст Юры Лукашэвіч выклікаў міліцыю.

Падобна, што напад быў узгоднены з супрацоўнікамі міліцыі, бо міліцыянты ў штацкім, якія дзяжурылі каля будоўлі, за пару гадзін да падзеі зніклі.

А тым часам на 23 лютага прадстаўнікоў фірмы «Белрэканструкцыя» запрасілі на размову ў адміністрацыю Савецкага раёна. На дзень сустрэчы забудоўшчыка папрасілі прыпыніць усе работы на пляцоўцы. На момант здачы нумару вынік гэтай размовы быў невядомы.

Нагадаем, участак для будаўніцтва бізнес-цэнтра гарадскія ўлады прадалі з аўкцыёну ТАА «Кипреконструкция» (падрадчык — ТАА «Белрэканструкцыя») у 2013 годзе. Да 2014-га гэтая тэрыторыя была ў межах ахоўнай зоны Курапатаў. Потым ахоўную зону істотна зрэзалі, каб пачаць актыўную забудову. За аднаўленне і пашырэнне гэтай зоны актывісты ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» змагаюцца ў судах ужо не першы год.

Курапаты і раней баранілі ад будаўнікоў. Больш за пятнаццаць гадоў таму моладзевыя актывісты выступілі супраць пабудовы кальцавой дарогі праз Курапаты. Кругласутачнае дзяжурства ва ўрочышчы доўжылася ад 24 верасня 2001 года да 2 чэрвеня 2002 года (250 дзён).

Колькі давядзецца трымаць вахту зараз, пакуль невядома. Актывісты запрашаюць неабыякавых людзей далучыцца да абароны Курапатаў, расстрэлу тысяч ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Патрэбны цёплыя рэчы, гарачая ежа і людзі, гатовыя да вахты.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Калі ўключаць друкарскі станок?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Дармаеды» не хочуць плаціць. Аднак гэтыя грошы Беларусі цалкам неабходныя. Раней мы набралі столькі пазыкаў, што іх выплаты ўжо ставяць краіну на мяжу дэфолту. Прынамсі, так лічаць некаторыя адмыслоўцы.**



Фота www.tut.by

У студзені 2017-га краіна ўступіла ў «перыяд з вялікімі выплатамі». Распісанае на 12 месяцаў абслугоўванне знешняга і ўнутранага дзяржаўнага доўгу і па іншых аперацыях патрабуе расходу замежнай валюты ў памеры $5,986 мільярда. У той жа час сума саміх рэзервовых актываў і ліквіднасці Рэспублікі Беларусь у замежнай валюце на канец студзеня 2017-га склала $5,376 мільярда — на 9,7% менш, чым сума маючых адбыцца на працягу 12-ці месяцаў загадзя ўсталяваных выдаткаў.

З улікам жа патэнцыйна магчымых («абумоўленых») выплат — валютных выдаткаў у бліжэйшыя 12 месяцаў можа быць больш, чым ёсць цяпер, на канец студзеня 2017-га, рэзервовых актываў, на 30,8%. Такім чынам, канстатуюць адмыслоўцы, без свежага прытоку валюты адзін толькі запланаваны на 12 месяцаў наперад ужо распісаны чысты адток замежнай валюты здольны цалкам «вычысціць» засекі Нацыянальнага банка, з золатам, і нават гэтага не хопіць.

Вырашаецца гэтая сітуацыя, канешне ж, некалькімі шляхамі. Першы і звыклы шлях — гэта набраць новых крэдытаў, каб пагасіць старыя. Аднак пакуль нам грошай ніхто не дае. Пытанне з крэдытам МВФ дагэтуль «не разрулена». І наўрад ці яно будзе неяк вырашана ў бліжэйшыя месяцы. Нафтагазавы канфлікт з Расіяй ставіць пад вялікі сумнеў і атрыманне танных грошай над нашага «стратэгічнага саюзніка». Відавочна, што ў Расіі самой скончыліся грошы і больш яна фінансаваць «беларускі эканамічны цуд» не будзе — прынамсі, не ў тых аб'ёмах, як гэта рабілася раней.

Можна, канешне, па выслоўі ката Матроскіна, «прадаць што-небудзь непатрэбнае». Аднойчы Беларусь так і зрабіла, прадаўшы «Газпрому» «Белтрансгаз». Аднак зараз справа ў тым, што нашае «што-небудзь непатрэбнае» не патрэбна нікому. У мінулым годзе ў Беларусі не адбылося ні адной здзелкі па прыватызацыі дзяржпрадпрыемстваў. «Не было нават ніводнай прапановы інвестара, за якога мы маглі б зачапіцца», — прызнаўся днямі першы намеснік старшыні Дзяржкамаёмасці Аляксей Васільеў.

Зараз дзяржава вырашыла трохі змяніць падыходы, і прапанавала інвестарам новую магчымасць: не проста купіць прадпрыемства, а ўкласціся ў яго за кошт дадатковага выпуску акцый. Такая дадатковая эмісія дазваляе пазбегнуць падвойнага фінансавання праекта. У гэтым спісе зараз 22 арганізацыі, сярод іх, у прыватнасці, — «Гарызонт», «БАТЭ», «Віцязь» і «Гомсельмаш».

Але ў той жа час падыход да гэтай «прыватызацыі» застаецца ранейшым. Прадстаўнік ДКМ завёў старую песню пра галоўнае, кажучы, што Беларусь «гатовая прадаць любое дзяржпрадпрыемства, але зыходзячы з яго рэальнага кошту». «Рэальны кошт» усталёўвае дзяржава, і, па факце, ён атрымліваецца нерэальным. Дагэтуль Сінявокая не можа прадаць МТС, заламіўшы за яго 1 мільярд долараў, у той час як бізнесоўцы ацэньваюць гэты актыў на чвэрць танней.

Застаецца толькі адно — выняць грошы з кішэняў насельніцтва. У мінулым годзе, нагадаю, беларусы прадалі банкам рэкордныя 2 мільярды долараў, і «валютныя заначкі» яшчэ не скончыліся. Пакуль Нацбанк не ўмешваецца ў попыт і прапанову валюты на рынку. Але не выключана, што, паглядзеўшы на свае актывы і запланаваныя выплаты, ён усё ж уключыць друкарскі станок. Каб за надрукаваныя грошы пачаць скупку валюты ў насельніцтва, нарошчваючы ЗВР і набываючы рэсурсы для выплаты па знешнім доўгу.

Зразумела, гэта выкліча падзенне курсу беларускага рубля, які пакуль што свае пазіцыі толькі ўмацоўвае. Аднак люфт для такога падзення ёсць. Згодна з сярэднетэрміновай фінансавай праграмай урада, курс долара на канец 2017 года запланаваны ў 2,21 рубля за долар. Гэта значыць, што рэзерв для падаражання долара — каля 40 капеек. Здавалася б, няшмат. Але ў коштах да дэнамінацыі гэта складае 4000 рублёў, і такое падаражанне заўсёды выклікала дэвальвацыйны ўсплёск.

Праўда, тады пра заробак «усім па 500» давядзецца забыцца, але ж на гэта нам забывацца не ўпершыню.

Дарэчы, такія ідэі ўжо ўзнікаюць. Пару тыдняў таму Пётр Пракаповіч на нарадзе ў Лукашэнкі заікнуўся пра тое, што трэба друкаваць грошы. Маўляў, паслабленне беларускага рубля выгаднае экспарцёрам, якія будуць больш канкурэнтныя на замежных рынках. Але і Нацбанк, і Лукашэнка гэтую ідэю пакуль што адрынулі. Вялікае пытанне — ці надоўга.

І тым не менш, ва ўрадзе сядзяць аптымісты. Прэм'ер Кабякоў агучыў, што ў студзені эканоміка спрацавала горш, чым было запланавана, але ўсё роўна нядрэнна. Спад ВУП склаў усяго 0,5% (разлічвалі, праўда, на 0,4%). І тое толькі таму, што Расія недапаставіла нам нафты — на 0,8 мільёна тон менш, чым было год таму. Але радуе, што пры гэтым тэмп росту прамысловай вытворчасці ў студзені склаў 105,9%, пры гэтым той самы рост паказалі 10 секцый перапрацоўчай прамысловасці з 13.

На гэтым фоне Кабякоў загаварыў і пра выкананне паказчыка «ўсім па 500». Аднак, згодна з канцэпцыяй «дэдаларызацыі», гэта гучала так, што да канца года мы павінны выйсці на 1000 рублёў сярэдняга заробку. «Рост даходаў — толькі ва ўвязцы з ростам прадукцыйнасці працы. Раздачы незаробленых грошай не будзе», — у чарговы раз падкрэсліў прэм'ер.

Але з аптымізмам Кабякова не пагаджаюцца большасць беларусаў. Паводле апытання, якое правяла ў снежні Беларуская аналітычная майстэрня Андрэя Вардамацкага, эканамічную сітуацыю ў краіне як «дрэнную» ацанілі 55% рэспандэнтаў. Аналагічны спад назіраецца і ў ацэнцы становішча ўласнай сям'і: як «дрэннае» ацэньваюць яго 44,8% апытаных. Пры гэтым найгоршыя ацэнкі даюць людзі актыўнага эканамічнага ўзросту.

Ёсць і яшчэ адзін шлях, дзе ўзяць грошы і на пагашэнне дзярждоўгу, і на заробак у 1000 рублёў. Гэта — рэфармаваць эканоміку, ствараць канкурэнтаздольную на сусветных рынках прадукцыю, нарошчваць экспарт і скарачаць выдаткі на вытворчасць той самай прадукцыі, заняўшыся, урэшце, энергазберажэннем. Але ў нашых варунках гэта шлях доўгі, і, падаецца, з галіны фантастыкі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алена Анісім



**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў у чарговы раз арыгінальна сустрэлася з насельніцтвам.**

Да Міжнароднага дня роднай мовы былі прымеркаваны розныя мерапрыемствы па ўсёй Беларусі. Алена Анісім у гэты дзень правяла ў сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзясятую Агульнанацыянальную дыктоўку. Яна чытала ўрывак апавядання «Усмешка» Янкі Брыля.

У сядзібу ТБМ на дыктоўку прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек. Сярод удзельнікаў былі дзеці, моладзь, людзі сталага ўзросту. Алена Анісім да «вучняў» ставілася лагодна, звычайна, калі справа не тычылася коскі, папярэджвала, што будзе «асаблівы» знак прыпынку, ды і ўвогуле чытала вельмі выразна. Усе ўдзельнікі дыктоўкі атрымалі рарытэтныя бронзавыя значкі з вывявай Францыска Скарыны, адлітыя ў Літве 30 гадоў таму.

Шкада, што зараз няма сесіі Палаты прадстаўнікоў. Магчыма, Алена Анісім правяла б такую дыктоўку для сваіх калегаў, і яны б больш прыязна ставіліся да роднай мовы.



## Міхаіл Жамчужны

**Заснавальніку праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» прызначаная дата чарговага суда — гэтым разам па пераводзе яго з папраўчай калоніі № 14 у турму.**

Справу 2 сакавіка павінен разглядаць суд Барысаўскага раёна.

Судовы працэс плануецца правесці на тэрыторыі калоніі №14, дзе Жамчужны адбывае пакаранне. Суддзя — Яўген Манышаў.

Адміністрацыя папраўчай калоніі №14 у Навасадах прыняла рашэнне накіраваць у суд матэрыялы аб змене палітвязню рэжыму ўтрымання на турэмны, тэрмінам на тры гады, у канцы студзеня. Падставай паслужылі спагнанні, якія былі вынесеныя Жамчужнаму нібыта за розныя парушэнні, якія ён здзейсніў падчас адбыцця пакарання, у тым ліку накіраванне яго ў ШІЗА і ПКТ.

Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла яму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Ён быў прызнаны вінаватым у падбухторванні да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу; незаконным набыцці і збыце спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, у тым ліку — паўторна; дачы хабару і дачы хабару паўторна.

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.



## Агнешка Рамашэўская-Гузы

**Дырэктарка тэлеканала «Белсат» ўганараваная Крыжам Свабоды і Салідарнасці.**

Узнагарода прызначаецца прэзідэнтам Польшчы па просьбе Інстытута нацыянальнай памяці.

Пра атрыманне ўзнагароды Агнешка Рамашэўская-Гузы паведаміла на сваёй старонцы ў «Facebook». «Гэта вельмі важная для мяне ўзнагарода, таму што гэта мера прызнання фактаў... Менш і больш важных дзяржаўных ўзнагароды часта атрымліваюць у залежнасці ад густу той ці іншай каманды ва ўладзе. Крыж Свабоды і Салідарнасці з'яўляецца доказам адданасці працы і на карысць свабоды і салідарнасці. Кажучы больш патэтычна: прызнанне за барацьбу за свабодную Польшчу», — сказала дырэктарка «Белсату» неўзабаве пасля цырымоніі.

Крыжам Свабоды і Салідарнасці адзначаюць грамадскіх актывістаў, якія змагаліся з камуністычнай дыктатурай Польскай Народнай Рэспублікі.

Пакуль не вядома, як гэта адаб'ецца на сітуацыі з тэлеканалам. Нагадаем, што МЗС Польшчы вырашыла скараціць бюджэт «Белсата» больш чым на дзве трацыны. Кіраўніцтва тэлеканала заявіла, што гэта азначае яго ліквідацыю. У абарону канала выступілі лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлана Алексіевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч, кіраўніца Саюза палякаў у Беларусі Анжаліка Борыс і іншыя вядомыя асобы.




**Дзяржава як атрымальнік сродкаў павінна выставіць плацельшчыку рахунак за аказаныя паслугі. Пры гэтым у плацельшчыка павінна быць права адмовіцца ад аплаты не патрэбных яму паслуг**

# Марш абураных, або Хто рэальны ўтрыманец

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Пакуль актывісты арганізуюць маршы абураных, а прадстаўнікі ўлады ўпарта працягваюць заяўляць пра тое, што за ўсё трэба плаціць, варта разабрацца ў тым, чым жа так раззлаваныя тыя, каго дзяржава аднесла да катэгорыі сацыяльных утрыманцаў.**

Каб пазбегнуць непаразуменця, прыгадаем, каго прынята называць утрыманцам. Утрыманец — асоба, якая знаходзіцца на працяглым ці сталым матэрыяльным або грашовым забеспячэнні з боку іншых асоб.

З агульнага вызначэння становіцца зразумела, што беларускім грамадзянам, прызнаным утрыманцамі, ставіцца ў віну тое, што яны знаходзяцца на матэрыяльным забеспячэнні ў дзяржавы.

Беларуская падатковая сістэма пабудавана такім чынам, што любы грамадзянін, які аплачвае пакупкі, аўтаматычна частку сродкаў адрасуе дзяржаўнаму бюджэту. Такім чынам, усе грамадзяне, незалежна ад таго, працуюць яны ці не, у той ці іншай меры ўдзельнічаюць у фарміраванні беларускага бюджэту. Сама сітуацыя, калі атрымальнік сродкаў называе частку плацельшчыкаў утрыманцамі па прычыне ўяўнай яму недастатковасці фінансавання, здаецца абсурднай.

У той жа час кожны беларус зможа прывесці прыклады, калі менавіта дзяржава не спраўляецца з пакрыццём выдаткаў і просіць матэрыяльнай падтрымкі з боку сваіх грамадзян. Прыгадаем самыя распаўсюджаныя сітуацыі.




## Абавязковая праца

Ключавым момантам аднясення грамадзян да катэгоры сацыяльных утрыманцаў з'яўляецца мінімальна неабходны перыяд працаўладкавання. Пры гэтым сама дзяржава пастаянна выкарыстоўвае бясплатную працу сваіх грамадзян. У першую чаргу, гаворка пра суботнікі, калі работнікі прадпрыемстваў выходзяць на працу, не атрымліваючы за гэта ні капейкі. Сюды ж можна аднесці ўдзел ва ўрачыстых мерапрыемствах, які з'яўляецца добраахвотна-прымусовым, але зусім не аплачваецца.

Але яшчэ больш паказальным з'яўляецца прыклад беларускіх беспрацоўных, якія для знаходжання ў афіцыйным статусе беспрацоўнага павінны працаваць у сярэднім па два дні на месяц. Па форме гэта вельмі падобна на грамадскія работы, якія ва ўсім свеце прынята разглядаць як пакаранне для тых, хто правініўся.

У гэтай сувязі справядліва ўзнікае пытанне: «Калі дзяржава лічыць, што непрацуючыя грамадзяне павінны мець нейкі афіцыйны статус, то чаму яна стварае зневажальныя ўмовы для зарэгістраваных беспрацоўных?»

## Пошук працы

Беларускія цэнтры занятасці не ў стане працаўладкаваць усіх беспрацоўных грамадзян у адпаведнасці з іх кваліфікацыяй.

Калі б усе 440 тысяч меркаваных утрыманцаў сталі на ўлік у службе занятасці, то гэта выклікала б калапс усёй сістэмы. А значыць, знаходжанне гэтых грамадзян у самастойным пошуку працы эканоміць значныя бюджэтныя сродкі.

У выніку ж дзяржава, пазбавіўшыся ад неабходнасці пошуку працы для вялізнай часткі непрацаздольных грамадзян, выстаўляе ім рахунак за няздробленую ўласную працу.

## Служба ў арміі

Беларусь нават ва ўмовах складанай геапалітычнай абстаноўкі не можа дазволіць сабе ўтрымліваць паўнавартасную прафесійную армію. Маладыя людзі, якія праходзяць тэрміновую службу, церпяць розныя пазбаўленні за сімвалічную плату. Вaеннаабавязаныя перыядычна адрываюць ад сям'і і працы, для таго, каб яны замест кантрактнікаў падтрымлівалі баяздольнасць беларускай арміі.

Відавочна, што любы беспрацоўны, які адслужыў тэрміновую службу, мае права сказаць у адрас дзяржавы: «Калі я бясплатна служыў, вы называлі гэта абавязкам, а калі я страціў працу, вы назвалі мяне ўтрыманцам».

## Дабрачыннасць

У Беларусі, як і ў любой іншай краіне свету, развітая дабрачыннасць. Беларуская сістэма аховы здароўя не прадугледжвае фінансаванне дарагога лячэння. Людзям, якія трапілі ў бяду, дабрачыннымі ўнёскамі дапамагаюць неабыякавыя суграмадзяне.

Тыя, у каго ёсць дзеці, рэгулярна ўдзельнічаюць у зборы сродкаў на ўтрыманне дзіцячых садоў і школ, таму што на гэта не хапае бюджэтнага фінансавання. У такіх выпадках ніхто не цікавіцца памерам даходаў донара і паходжаннем гэтых сродкаў.

Відавочна, што цяпер частка бацькоў будзе мець права заявіць: «Мяне дзяржава прызнала ўтрыманцам, прымусіла аплаціць збор, таму хай за гэтыя грошы і ажыццяўляе неабходны рамонт».

## Пенсія

Аднадчасова з палітыкай стрымання сацыяльнага ўтрыманства дзяржава запусціла пенсійную рэформу. У выніку па беларусах, якія маюць праблемы з працаўладкаваннем, быў нанесены двайны ўдар. З аднаго боку, іх пазбавілі магчымасці атрымання пенсіі па ўзросце, у выпадку, калі яны не адпрацуюць мінімальны 20-гадовы страхавы стаж. А з другога боку — іх яшчэ і абавязалі плаціць збор за час працоўнага прастою.

Акрамя таго дзяржава павысіла пенсійны ўзрост, тым самым яшчэ больш абясцэніўшы пенсійныя адлічэнні грамадзян. Прычынай быў названы недахоп фінансавання. Аднак незразумела, чаму недахоп фінансавання павінны аплачваць яшчэ і тыя, хто ў сувязі з праведзенымі рэформамі пенсію па ўзросце не атрымае зусім. Цалкам відавочна, што прыняты Дэкрэт №3 у корані супярэчыць рэформе пенсійнай сістэмы.

## Аклад

Аналіз вакансій, якія размяшчаюцца беларускімі цэнтрамі занятасці, паказвае, што большасць з іх прапануе мінімальна дапушчальны ўзровень аплаты працы. Разам з тым, многія часовыя работы грамадзян, напрыклад, у будаўніцтве або лесанарыхтоўцы, прыносяць значна большы даход дзяржаве ў выглядзе падаткаў, чым праца супрацоўніка на неэфектыўным прадпрыемстве на працягу ўсяго каляндарнага года.

У краіне вялікая колькасць дзяржаўных прадпрыемстваў, якія не толькі не могуць забяспечыць работнікам годны ўзровень аплаты працы, але яшчэ і атрымліваюць субсідыі з дзяржаўнага бюджэту.

Калі дзяржава мае права называць сезонных работнікаў утрыманцамі, то тады трэба прызнаць, што дзяржаўныя прадпрыемствы і іх кіраўнікі, якія не ў стане забяспечыць нармальны аклад сваім работнікам, таксама для іх з'яўляюцца ўтрыманцамі.

## Выхаванне дзяцей

Дзеці да 18 гадоў, як вядома, з'яўляюцца ўтрыманцамі сваіх бацькоў. І ў гэтым крыецца сур'ёзная неспадзяванка. Пакуль грамадзянін працуе, падатковыя органы прызнаюць у яго наяўнасць дзяцей на ўтрыманні. А калі грамадзянін губляе працу, утрыманцам прызнаецца ён сам. За што павінен пералічваць дзяржаве частку тых грашовых сродкаў, якія маглі быць выдаткаваныя на дзяцей. Гэта значыць, па сутнасці, дзяржава забірае грошы ў дзяцей, якія знаходзяцца на ўтрыманні, і аддае іх на нейкія іншыя патрэбы.

Час сумленна прызнаць: дзяржава, якая забірае грошы ў дзяцей на іншыя патрэбы, не мае права называцца сацыяльна арыентаванай.

***

Як бачым, пошук утрыманцаў у беларускім грамадстве прыводзіць да зусім процілеглых высноў адносна таго, хто з'яўляецца рэальным утрыманцам.

Усталёўваючы збор на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў, размеркавальнікі бюджэту паказваюць на недастатковасць фінансавання з боку асобных грамадзян. Аднак для таго, каб высветліць, хто, каму і колькі павінен, спачатку неабходна выставіць узаемныя патрабаванні.

Здаровы сэнс падказвае, што дзяржава як атрымальнік сродкаў павінна прад'явіць плацельшчыку рахунак за аказаныя паслугі. Пры гэтым у плацельшчыка павінна быць права адмовіцца ад аплаты не патрэбных яму паслуг.

Пакуль жа дзяржава не створыць празрыстую бюджэтную сістэму, менавіта чыноўнікі будуць успрымацца як утрыманцы на шыі ў народа.

# Шчаслівыя насуперак усім

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Яны ўжо пятнаццаць гадоў у шлюбе. Калі пазнаёміліся, ёй, творчай і натхнёнай, было 25. Яму — 29. І ён ужо пяць гадоў як быў прыкаваны да ложку пасля няўдалага падзення з дрэва.**



Таццяна клапатліва завіхалася на кухні, пакуль з намі знаёміўся Андрэй.

Мужчына просіць, каб яго пасадзілі ў крэсла. Кажа, што не для задавальнення, а таму, што трэба часам і сядаць. Андрэй на некалькі хвілін збялеў — праз скачкі ціску ён не любіць падымацца з ложку. Але Таццяна дала яму лекі, памасажыравала галаву і шыю — і Андрэй зноў з намі.

### Знаёмства

У 24 гады Андрэй няўдала ўпаў з дрэва. Траўма назаўжды прыкавала яго да ложку. Малады, здаровы і... інвалід-вазочнік. З гэтым цяжка было змірыцца. Душа балела можа больш, чым цела. Хацелася крычаць ад адчаю. Але Андрэй знайшоў іншы шлях.

Свае перакананні пра дабро і справядлівасць ён стаў увасабляць у вершах, якія адпраўляў расійскім памежнікам і вайскоўцам у Беларусь, Таджыкістан і на Каўказ. Чаму туды? Справа ў тым, што ў юнацтве Андрэй заўсёды хацеў служыць у памежных войсках. І нават марыў трапіць у якую-небудзь гарачую кропку на Каўказе. У армію ён пайшоў добраахвотна ў 1991 годзе. Служыў на Украіне. І ў Прыднястроўі трапіў у перасыльную частку, якую называлі «чорнай» дывізіяй з-за таго, што славянскага кантынгенту там амаль не было.

«Я быў тады іншы чалавек, — скажа Андрэй пасля. — Але без колішняга захаплення расійскім войскам не было б мяне цяперашняга».

Ну а Таццяна ў той час працавала праграмістам. І таксама пісала вершы. Калі Таццяна скончыла рукапіс сваіх вершаў, то аддала іх прачытаць некалькім знаёмым. Адным з іх быў хлопец, які сябраваў з Андрэем. Ён прачытаў Таццяніны вершы, і яму падалося, што яны з Андрэем чымсьці падобныя. Таму і вырашыў іх пазнаёміць.

Андрэй і Таццяна сталі ліставацца праз электронную пошту. Але на гэтым хутка ўсё і скончылася.

«Гэта ўсё было павярхоўным, — дзеліцца Таццяна, — вельмі часта, калі малазнаёмыя людзі пачынаюць кантактаваць, асабліва праз інтэрнэт, яны могуць непаразумецца праз адно неяк не так сказанае слова... Але, як па мне, то калі адразу нешта ідзе не так — гэта добрая прыкмета. Я заўважыла, што калі першае ўражанне ад чалавека кепскае, то, значыць, пасля ўсё будзе добра».

Таццяна падумала, што не дала магчымасць Андрэю раскрыцца, таму вырашыла паспрабаваць працягнуць знаёмства. «І наступнае наша намаганне было паспяховым», — усміхнулася жанчына.

### Першае спатканне

— Як прайшло ваша першае спатканне? — запытала я.

— А ніяк! — у адзін голас адказалі Мікалаевы.

Таццяна апускае вочы і ўзгадвае:

— Я ўяўляла, што Андрэй будзе больш мабільным... Я думала, што ён будзе катацца ў вазочку па кватэры... Я ж нават фота яго не бачыла. А тут пабачыла: ён ляжыць у ложку і нават не падымаецца. Схуднелы... Я думала, што ён будзе больш здаровы.

— А мае ўражанні ад спаткання былі прасцей. У мяне не было ніякіх чаканняў. Ну, добра, прыйдзе дзяўчына... Так дзяўчаты ж і раней да мяне прыходзілі ў госці... Мае думкі больш былі скіраваныя на тое, як яе прыняць, і як я буду выглядаць пры гэтым, — падзяліўся Андрэй.

Але пасля зноў наступіў перапынак. Для Андрэя гэта была проста сустрэча, падчас якой нешта стала нараджацца ў яго нутры. Таццяна з гарыччу думала, што Андрэй — проста вазочнік, які клеіць дзяўчат.

Змянілася меркаванне Таццяны пра Андрэя, калі той у 2001 годзе скокнуў з парашутам. Ён тады напісаў ёй паведамленне: «Інвалід-вазочнік упершыню ў Беларусі будзе скакаць з парашутам». А Таццяна нават не змагла прачытаць запрашэнне, бо заблакавала Андрэя.

Гэта зараз, пражыўшы ўжо столькі гадоў у шлюбе, яны цвяроза глядзяць на былыя непаразуменні. «Кожны чалавек — індывідуальны, — сказала Таццяна. — Муж і жонка — гэта розныя людзі, але ў іх ёсць нешта агульнае. І, каб стаць адным цэлым, ім варта пераадолець тое, што іх адрознівае, ім варта ад непаразумення перайсці да згоды».

**«Калі няма канфліктаў у сямейным жыцці, то магу сказаць, што паміж сужонкамі альбо няма адносінаў, альбо яны проста не жывуць побач. А на адлегласці заўжды добра кахаецца»**

Яны зноў пачалі камунікаваць. Аднойчы Андрэй запрасіў Таццяну на канцэрт у Дом літаратараў, дзе гучалі песні на яго вершы. Таццяна прыйшла. І запісала канцэрт Андрэя на дыктафон. «У мяне з'явілася нагода для сустрэчы — прынесці Андрэю запіс», — смяецца Таццяна.

Пасля гэтага канцэрту яны сталі рэгулярна сустракацца. Таццяна прыязджала да Андрэя ў госці, і яны гадзінамі размаўлялі, часам да самай ночы. Дзяўчына ледзь паспявала на апошні аўтобус і ехала праз увесь горад дадому.

Яны распавядалі мне, перабіваючы адно аднаго, пра свае спатканні. А мне стала цікава, ці адразу яны ўсведамлялі тое, што гэта і ёсць лёс.

«Каб я разумеў на той момант, што гэтыя стасункі да чагосьці прывядуць, то я б іх і не пачынаў. Я добра ўсведамляю, хто я і хто іншыя людзі», — адказаў Андрэй.

Таццяне ж было цікава пазнаваць Андрэя: «Для мяне гэта быў проста блізкі чалавек, з якім мне хацелася быць побач. Калі я была побач з ім, мне было спакойна».

«Я тады меркаваў так: сустракаемся — і добра. Калі б я думаў пра будучыню, то заблакаваў бы сябе», — дадаў Андрэй.

### Шлюб

«Я хачу, каб ты быў маім мужам», — гэтыя словы Таццяна сказала Андрэю. Прычым усяго праз некалькі месяцаў пасля знаёмства. «Ну, хай будзе муж», — адказаў Андрэй. Але, магчыма, спачатку не ўспрымаў гэта сур'ёзна.

Таццяна ж да сваіх адчуванняў ставілася вельмі сур'ёзна.

Андрэй ні на секунду не забываў, што ён — інвалід. Ён разумеў, чаго будзе каштаваць гэты шлюб Таццяне.

«Я ўяўляла, што мяне будзе чакаць. Але што такое каханне? Я не магла адмовіцца ад самага дарагога чалавека толькі праз цяжкасці, якія наперадзе?» — дадала Таццяна.

«А я думаў галавой, — уступіўся Андрэй. — Каханне каханнем, але жыць трэба будзе з інвалідам. Мне здавалася, што Таня не гатова да гэтага. Мне было дастаткова таго, што я сапсаваў жыццё сваім сваякам. Я не хацеў псаваць жыццё яшчэ аднаму чалавеку. Яна ж казала пра тое, што адчувае, што я яе муж... Ну, раз ужо я «муж-муж», то вырашыў паспрабаваць. Раней акунешся — раней выплывеш, калі ўжо нешта не заладзіцца...»

Выклік быў прыняты — Андрэй прапанаваў Таццяне руку і сэрца.

Сказаць Андрэю «так» — гэта было рашэннем, за якое Таццяна дагэтуль нясе адказнасць: «Свае жыццёвыя выбары я рабіла дзеля любові і ў імя любові. Калі б я наступіла тады сама сабе на горла, то жыццё маё было б тады іншым, няшчасным, хаця, мажліва, і больш лёгкім».

Таня прапанавала Андрэю вянчацца. Андрэй жа ставіўся да гэтага скептычна, бо не прызнаваў тагачасную моду на вянчанне, а пасля яго — моду на разводы. Але нарэшце яны павянчаліся, амаль праз год пасля знаёмства.

Іх сямейнае жыццё заўжды складалася з пошукаў праўды, кампрамісу і ў распальванні любові адно да аднаго, пераадольвання крызісаў, якіх праз стомленасць і непаразуменне было нямала.

Акрамя таго Мікалаевы адзінаццаць гадоў пражылі ў адной кватэры з бацькамі Андрэя. Таццяна ўзгадвае гэты перыяд з неахвотай.

У цяжкія моманты Андрэй заўсёды нагадваў сабе пра вянчанне. Калі Таццяна не вытрымлівала і на эмацыйным узроўні ўжо хацела разводзіцца, Андрэй ведаў, што ён вытрымае, бо яны кахаюць адзін аднаго і далі абяцанне Богу: «Калі няма канфліктаў у сямейным жыцці, то магу сказаць, што паміж сужонкамі альбо няма адносінаў, альбо яны проста не жывуць побач. А на адлегласці заўжды добра кахаецца».

Таццяне ж доўгі час падавалася, што Андрэй яе не кахае: «Я часта казала: «Усё! Разводзімся!». Мне проста было балюча ад таго, што думала: ён не кахае мяне. Бо так часта падавалася, што столькі гадоў пражыла з чалавекам, а ён мяне не кахае... Прынамсі, мне падалася, што ён так сябе паводзіць. І мне гэта не падабалася. Прайшло шмат гадоў, пакуль мы навучыліся давяраць адно аднаму».

«А мне можа быць таксама не падабаецца, калі са мной пастаянна разводзяцца! Я ж таксама магу сказаць, што мяне не кахаюць!» — выпаліў Андрэй.

Падчас нашай размовы Андрэй часта спаўзаў з крэсла і прасіў Таццяну яго падцягнуць. Тады худзенькая і маленькая Таццяна падыходзіла да мужа, брала яго пад рукі і ўмомант падцягвала. І вось яны зноў сядзяць побач і ўсміхаюцца...

Даглядаць за Андрэем Таццяна навучылася не адразу. Было цяжка і фізічна і, канечне ж, маральна. Але, як кажа жанчына, яна проста ўяўляе, што сама ляжыць у ложку і не можа падняцца: «Я заўжды думаю: як можна зрабіць так, каб мне было лягчэй?».

### Сэнс жыцця і беларускасць

Андрэй не адзін раз за размову паўтараў: «Быў час, за які я не магу ганарыцца за свае перакананні. За захапленне «савецчынай» і «расейшчынай». За жаданне ісці ваяваць у гарачую кропку».

Але перад прэзідэнцкімі выбарамі 2006 года Андрэй стаў цікавіцца тым, што адбываецца ў краіне. Паступова ён стаў захапляцца нашай гісторыяй і размаўляць па-беларуску, вярнуўся да каталіцтва. А пасля падзей ва Украіне стаў дапамагаць украінцам праз малітву і «Вайсковую місію Цудоўнага медаліка ва Украіне».

Андрэй перакананы, што наша жыццё мае свае прыступкі: «Калі ты прайшоў сам праз такі савецкі ўклад жыцця, то пачынаеш разумець іншы бок, які зараз вядзе інфармацыйную вайну і прапаганду. І толькі дзякуючы Божай ласцы, я зараз сам не такі».

Таццяна заўжды падтрымлівала мужа. А пра тыя вершы, якія ён прысвячаў расійскім памежнікам, яна кажа так: «Ён быў ваяром справядлівасці. Ён заўжды шукаў праўды і дабра. І на той момант ён мог увасабляць свае пошукі такім чынам».

А ў 2010 годзе, калі «Белсат» здымаў кароткаметражны фільм пра скачок Андрэя з парашутам, разам з інструктарам скокнула і Таццяна.

— Таццяна, хто для вас муж? — запытала я.

— Гэта самы дарагі мне чалавек, — не задумваючыся адказала жанчына.

— Яна — сэнс майго існавання на гэтай зямлі, — тут жа адказвае Андрэй. — Менавіта разуменне таго, што я патрэбны шмат у чым Тані, дае мне сілы. Я патрэбны ёй зараз асабліва, бо яна згубіла працу і страціла здароўе. Хочацца пабыць з ёй тут паболей...

Яны — тыя, хто заўсёды разам. Яны трымаюцца адзін за аднаго, каб выжыць. Таму вельмі хочацца, каб у гэтай маленькай аднапакаёвай кватэры заўжды валадарылі спакой і любоў.

**Фота Юліі Янюк-Казлоўскай**

# Фарбы паралельнага свету

**Экс-палітвязень, аўтар «Новага Часу» і актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок пра свае 5 гадоў за кратамі распавёў у кнізе «Фарбы паралельнага свету». У кнізе ён распавядае пра арганізацыю працы карных органаў і сістэму падаўлення асобы, якая выбудоўваецца за кратамі, на канкрэтных прыкладах, пабачаных ім у няволі. Знайшлося месца і для аповедаў на гістарычныя і філасофскія тэмы. Кніга была напісана часткова ў турме, часткова пасля вызвалення.**
**Прэзентацыя кнігі адбудзецца 26 лютага ў прасторы «Punk» на Кастрычніцкай, 23А ў 18.00.**
**На прэзентацыі аўтар распавядзе пра тое, як ствараласа кніга, што ў яе ўвайшло, а таксама пра тое, якія ёсць метады супраціву карнай сістэме ў турме і на волі. І, канешне, на прэзентацыі вы зможаце набыць саму кнігу.**
**Прапануем вашай увазе ўрывак з кнігі Мікалая Дзядка «Фарбы паралельнага свету».**






## ШІЗА

«Хто не быў на «губе», той не служыў у арміі», — часта кажуць былыя салдаты. Аналагічна можна сказаць: «Хто не быў у ШІЗА, той не сядзеў у турме».

Без разумення таго, што сабой уяўляе штрафны ізалятар, альбо, як яго яшчэ называюць, кіча, немагчыма зразумець сутнасць турэмнай сістэмы і многія паводзіны вязняў.

Згодна з ПУР і КВК, штрафны ізалятар — адна з найцяжэйшых мер дысцыплінарнага спагнання, якая павінна прымяняцца толькі за грубыя парушэнні рэжыму. А паколькі вызначэння «грубага» парушэння ніхто не даваў, яно цалкам ляжыць на сумленні начальніка калоніі, які і прызначае гэта пакаранне.

Што такое ШІЗА? На тэрыторыі калоніі за дадатковым радам калючага дроту і КСП (кантрольна-следавой паласы — перакапанай зямлі, на якой будуць бачныя сляды), як на выспе, знаходзіцца асобны барак — барак ШІЗА/ПКТ, які з'яўляецца своеасаблівай лагернай спецтурмой. У гэтым бараку (у выпадку турэмнага ШІЗА — гэта проста падвал), як і ў звычайнай турме, знаходзяцца камеры. У адну з такіх камер пасля «дысцыплінарнай камісіі» і заводзяць парушальніка.

Уявіце памяшканне даўжынёй прыкладна два метры і шырынёй метр з нечым. Дашчаная падлога. На гэтай невялічкай плошчы знаходзяцца: нары, прышпіленыя да сцяны (адшпільваюцца кантралёрам звонку, з прадолу), табурэтка, столік «для прыёму ежы», прыбіральня (унітаза няма, ёсць «очко»), абгароджаная з аднаго боку сценкай каля метра вышынёй, умывальнік, невялікія палічкі на сценах. Часта яны размешчаны так, што па камеры нельга зрабіць і двух крокаў, каб на нешта не наткнуцца. Пад столлю вісіць лямпачка, ёсць і «акно», калі яго можна так назваць. Паміж свежым паветрам і вамі — шкло ў раме, краты з унутранага боку і металічныя жалюзі са знешняга, каб вязні не маглі «срабатываться» — перадаваць нешта з камеры ў камеру, а таксама для большага псіхалагічнага ціску, каб не было бачна сонца і неба. Але адміністрацыя часта праяўляе вынаходлівасць і робіць у «вокнах» ШІЗА дадатковыя краты. Рэкардсменамі лічу мянтоў ПК–9 (Горкі), якія зрабілі ў акне ажно чацвёра кратаў плюс шкло — сонечны свет у камеру амаль не трапляў, — так што, цалкам магчыма, заслужылі пахвалу ад правяраючых з ДВП.

Перад заходам у ШІЗА вязня чакае абавязковы шмон. Самае важнае — браць з сабой нельга практычна нічога, з адзення толькі сваё «форменнае» (у некаторых калоніях і «форменнае» нельга — у ізалятары выдаюць асобае, з надпісам «ШИЗО» на ўсю спіну). Вам дазволяць узяць толькі ручнік, мыла, зубную пасту, зубную шчотку і туалетную паперу. Нават станкі для галення можна не паўсюль. У тых жа Горках, напрыклад, тым, хто знаходзіцца ў ШІЗА, галіцца ў лазні не даюць, каб не разабралі станкі на «мойкі» і не скарысталі іх, напрыклад, для таго, каб ускрыцца (вядома, ніхто не думае пра паляпшэнне жыцця зэкаў, каб яны перасталі ўскрывацца, — прасцей забараніць галіцца). Як вынік, вязні выходзяць з ШІЗА зарослыя, як бармалеі.

Усё астатняе, што б вы ні захацелі з сабой пранесці (ежу, цыгарэты, паперу, ручку, лісты, газеты, кнігі), не дазволена. У ШІЗА вы павінны застацца сам-насам з сабой і, па задуме турэмшчыкаў, напэўна, «думаць пра свае паводзіны».

Праўда, хітрыя зэкі, якія не хочуць пазбаўляцца цыгарэт на дзесяць ці больш сутак, робяць так званыя «тарпеды» — скруткі з цыгарэт, герметычна запакаваныя ў некалькі слаёў цэлафану, што потым запіхваюцца ў прамую кішку. Вядома, шмат цыгарэт так не ўлезе, таму ўпакоўваць іх у «тарпеду» трэба вельмі шчыльна — гэта цэлая тэхналогія. У выніку сярэдняя тарпеда з сарака цыгарэтамі мае дыяметр тры-чатыры сантыметры. Большасць зэкаў не можа ўзяць з сабой больш за тры тарпеды, але даводзілася чуць аб умельцах, якія бралі да дзевяці штук. Пасля «растарпедавання» цыгарэты трэба недзе захоўваць, каб на планавым шмоне ў камеры іх не знайшлі і не забралі. Гэта таксама патрабуе ад зэка пэўнай кемнасці і спрыту.

У кармушку камеры ШІЗА тройчы на дзень прыносяць ежу. Лыжку і міску мець таксама нельга — іх выдаюць, а як паеў — забіраюць. Да 1998 года зэкаў у ШІЗА кармілі так: адзін дзень давалі ежу па зніжанай норме (менш, чым у атрадах), а другі дзень — толькі хлеб і ваду. «Дзень лётны, дзень нялётны», — так называлі гэты парадак арыштанты, большасць з якіх выходзілі з ізалятара пасля пятнаццаці сутак пакарання, трымаючыся за сценку. У 1998 годзе закон памяняўся, але зніжаная норма харчавання ў ізалятарах была пакінутая да 2010-га. Зараз зэкаў кормяць аднолькава як у ШІЗА, так і ў атрадзе. Гуманізацыя!

Трохразовае харчаванне — амаль адзінае, па чым, седзячы ў ШІЗА, можна больш-менш дакладна дазнацца, колькі зараз часу. Бо гадзіннік у ШІЗА таксама забаронены. Таксама як і ўсё, што можа дапамагчы бавіць час. З ШІЗА не выводзяць на спатканні і тэлефонныя званкі. Там нельга атрымліваць перадачы, пасылкі, бандэролі і лісты. На прагулку не выводзяць — дваццаць чатыры гадзіны ў суткі знаходзішся ў бетоннай каморцы. На ўвесь рост перад вязнем паўстае пытанне: чым заняцца? Адказ на яго ён мусіць знайсці, па-першае, калі не хоча звар'яцець, па-другое, каб час для яго не цягнуўся з такой пакутлівай павольнасцю. Сітуацыю ўскладняе тое, што сядзяць у ШІЗА звычайна па адным. Мянты ведаюць, што робяць, бо яшчэ Дзюма заўважыў: «Турма, падзеленая з кім-небудзь, ужо толькі напалову турма». Адміністрацыя лагера з задавальненнем дасць вам адчуць сябе вязнем замка Іф і пасадзіць да вас суседа толькі тады, калі ўсе іншыя камеры будуць занятыя.

Тыя, што кураць, вырашаюць праблему адносна лёгка: пакуль дастанеш цыгарэты з «нычкі», пакуль дачакаешся, каб кантралёр прайшоў міма вочка, пакуль пакурыш у акенца, потым ручніком развееш дым па хаце, каб не «спаліцца» — ужо які-ніякі занятак. Чатыры-пяць цыгарэтак за дзень — час бяжыць. Тым, што не кураць, яшчэ складаней. Але ў любым выпадку амаль усе формы баўлення часу ў ШІЗА забаронены ПУР. За іх можа атрымаць дадатковае спагнанне — напрыклад, падаўжэнне тэрміну ў ШІЗА. Размаўляць з суседзямі праз сцены, акно ці каналізацыю — забаронена, чытаць-пісаць — забаронена (нават калі вы цудам нешта пранеслі — у вас гэта забяруць на першым жа «шмоне»), спаць — забаронена, а калі вас двое і вы вылепіце з хлеба шашкі і вырашыце ў іх згуляць, то і за гэта на вас могуць накласці спагнанне: «Не положено!»

Застаецца няшмат: хадзіць па камеры з кутка ў куток, калі «мэбля» дазваляе (звычайна гэта пяць маленькіх крокаў у адзін бок), займацца спортам (калі можна назваць «спортам» практыкаванні ў памяшканні, куды амаль не трапляе свежае паветра) ці проста, седзячы, думаць... Асабіста мяне ратавала ёга, медытацыя, мары аб будучыні і доўгія «пешыя прагулкі».

Але тое — удзень. Самае цікавае ў ШІЗА пачынаецца ноччу. Згодна з ПУР, матрац, як і іншыя пасцельныя рэчы, вязням у ШІЗА не выдаецца, замест гэтага на ноч ад сцяны адшпільваецца нара. Вязні ж на ёй ніколі не спяць — спяць на падлозе, бо там цяплей. Калі на вуліцы не трыццаць і болей градусаў цяпла, то ноччу вас чакае выдатная прыгода пад назвай «Паспрабуй паспі». Мала таго, што спаць давядзецца на дошках, што цяжкавата з непрывычкі, галоўнае — холад рэдка дасць вам заснуць больш чым на трыццаць-сорак хвілін. Паспаўшы якія паўгадзіны (залежыць ад тэмпературы ў камеры), вы прачнецеся ад дрыжыкаў і зразумееце, што больш спаць не можаце, і хутка зразумееце, навошта на «шмоне» з вас знялі ўсё цёплае адзенне! Інстынкт выжывання беспамылкова падкажа вам: калі немагчыма падняць тэмпературу навакольнага асяроддзя, трэба падняць хаця б тэмпературу ўласнага цела, і вы пачнеце рабіць практыкаванні са школьнага курса фізкультуры, каб хоць трошкі разагнаць кроў па задубелых канечнасцях. Калі вы паспяхова справіцеся з гэтай задачай, то зможаце паспаць яшчэ паўгадзіны. І чаргаваць спорт са сном вам давядзецца да самага пад'ёму, калі на снеданне баландзёр прынясе вам гарачай (калі пашанцуе) гарбаткі і міску кашы.

З цягам часу набіраешся досведу: заходзячы ў камеру, залепліваеш акно туалетнай паперай (хоць няма свежага паветра, затое цяплей), знаходзіш месцы, дзе спаць зручней за ўсё (я вылічваў іх па выцертасці фарбы на падлозе: дзе фарба самая сцёртая, там і трэба класціся спаць, бо гэтая выцертасць кажа аб тым, што там спалі ўсе да мяне), запраўляеш штаны ў шкарпэткі, каб зберагчы крошкі цяпла, а таксама робіш са



# Мікалая Дзядка




сваіх тапачак і скрутку туалетнай паперы выдатную падушку.

У любым выпадку, прачнецеся вы разбітым, і ўвесь дзень вам будзе хацецца спаць. Нарэшце, паддаўшыся гэтаму памкненню, вы прыляжаце на падлогу, і кантралёр з радасцю напіша на вас акт аб парушэнні. (Яшчэ не забылі? Спаць удзень забаронена!) А праз колькі дзён адчыняцца дзверы, і вам паведамяць: «Такого-то числа во столько-то осужденный такой-то спал на полу камеры номер такой-то штрафного изолятора, чем нарушил пункт такой-то Правил внутреннего распорядка». І прапануюць распісацца яшчэ за дзесяць сутак. Асаблівым шыкам у мянтоў лічыцца прынесці такую паперу ў апошнія гадзіны, нават хвіліны, да вызвалення, калі ты ўжо наперад смакуеш, як вось-вось пап'еш у атрадзе гарачай кавы з шакаладкай і будзеш спаць гэту ноч у цёплай і мяккай пасцелі.

Колькі ж можна трымаць вязня ў штрафным ізалятары? Да 2008 года гэты тэрмін складаў пятнаццаць сутак. Потым з чарговай хваляй «гуманізацыі» яго знізілі да дзесяці, але дэ-факта гэта нічога не змяніла, бо гаворка ідзе аб «аднаразовым» пакаранні, за адно парушэнне. А за «парушэнні ў ШІЗА» вязня могуць утрымліваць там колькі заўгодна доўга.

«Спаў на падлозе» — не адзіная нагода. У кожным лагеры свая тыповая адпіска, якая фабрыкуецца на арыштанта, каб прадоўжыць яго тэрмін у ШІЗА. Дзесьці гэта «не произвел уборку», дзесьці «расстегнутая пуговица»... Ніколі не забуду, як у ПК–17 у Шклове, дзе трапіў у ШІЗА праз дзве гадзіны пасля таго, як прыехаў у калонію, вырашыў: ну, зараз не дам ім нагоды, буду рабіць усё па статуце! Не будзе да чаго прычапіцца, і выпусцяць праз дзесяць сутак! Малюсенькай анучкай вычысціў усю камеру: прыбраў павуцінне, пыл, бруд, нават у тых месцах дзе, упэўнены, яго не прыбіралі з моманту будавання барака. Вячэрняя праверка. Адчыняюцца дзверы. У цесную камеру літаральна ўрываюцца адразу тры кантралёры, ды яшчэ і ДПНК, і пачынаюць азвярэла матляць галовамі па баках, праводзіць рукамі па паліцах,

**Амаль усе формы баўлення часу ў ШІЗА забаронены. За іх можа атрымаць дадатковае спагнанне. Застаецца няшмат: хадзіць па камеры з кутка ў куток, калі «мэбля» дазваляе, ці проста, седзячы, думаць**

рэбрах нараў, батарэі, століка, нахіляцца, залазіць пад столік і ледзь не на карачках поўзаць, вышукваючы пыл і хоць якую часцінку бруду. Усё беспаспяхова — камера «зіхаціць». Тады адзін з кантралёраў, той, што перад гэтым праводзіў рукой па паліцы, на якой часткова аблупілася старая фарба, націснуў рукой і расцёр яе, часцінкі фарбы засталіся на ягоных руках:

— О! А вот и пыль! Составляем на тебя документ!

Што я ім адказаў, ужо не помню. Але той выпадак канчаткова пахаваў веру ў тое, што палітвязню ў зоне можна «жыць-каб-цябе-не-чапалі».

Іншы выпадак з ПК–9 (Горкі). Хлопец, які ведаў, што мянты на яго злыя і, хутчэй за ўсё, захочуць працягнуць ягоны тэрмін знаходжання ў ШІЗА, наўмысна паводзіў сябе ўзорна — зашпільваў кліфт на апошні гузік, не спаў удзень і гэтак далей. І вось чарговы дзень. Прайшоў абед. Некалькі хлопцаў, што сядзелі з ім у хаце (ён быў не адзін), разлегліся на падлозе і «даюць храпака». Адчыняюцца дзверы, у хату заходзіць ДПНК. На тых, хто спіць, ён не звяртае аніякай увагі. Паміж ім і «прыкладным зэкам» адбываецца такая размова:

— А ты чего не спишь?

— А я не нарушаю распорядок дня!

— Не нарушаешь, да?.. Ну тогда бумага на тебя, бумага!

І потым на дысцыплінарнай камісіі арыштант можа колькі заўгодна даказваць, што ён не спаў ці яшчэ нешта не парушаў. Я не чуў і не бачыў аніводнага выпадку, каб гэтыя тлумачэнні хоць раз дапамаглі камусьці хаця б знізіць пакаранне, не тое што пазбегнуць яго.

У ПК–17 (Шклоў) яшчэ ў былыя часы, калі ў зоне часта можна было сустрэць мабільныя тэлефоны, аператыўнікі даводзілі да зэкаў: за валоданне мабілай — трыццаць сутак ШІЗА! А як жа трыццаць, калі законам дазволена максімум пятнаццаць? Атрымліваецца, чалавек яшчэ не трапіў у ШІЗА, а мянты ўжо ведаюць, што ён зробіць там «парушэнне рэжыму» і давядзецца дакінуць яму яшчэ пятнаццаць сутак!

Нахабнасць мянтоў і звыкласць да беззаконнасці ў зэкаў даходзяць да камічнага абсурду. Адзін з былых прабывальнікаў ПК–8 (Орша) распавядаў мне, як дадавалі суткі ў ШІЗА там. На праверцы ў камеру заходзіць ДПНК, зверае колькасць людзей у камеры па спісе. Глядзіць, хто ў камеры па раскладзе дзяжурны, і калі гэта той самы, каго аператыўнікі загадалі «адстрэліць», кажа, нават не падымаючы галавы ад спіса: «Иванов, паутинка!» — і выходзіць. Гэта значыць, што ў камеры пад столлю вісіць павуцінне (ці ДПНК лічыць, што вісіць, — а ёсць яно сапраўды ці не, не іграе ніякай ролі), і ў гэтым вінаваты дзяжурны па камеры, які дрэнна ў ёй прыбраў. Гэта значыць, што на яго складуць акт аб парушэнні, які будзе разгледжаны начальнікам калоніі на дысцыплінарнай камісіі, дзе супрацоўнікі калоніі, у сваю чаргу, будуць вырашаць пытанне аб накладанні на Іванова дысцыплінарнага спагнання. Але вязню такое доўгае тлумачэнне без патрэбы. Слова «паутинка» пасля яго прозвішча азначае адно: ягонае прабыванне ў ШІЗА працягваецца як мінімум на дзесяць сутак. Але падчас гэтага спектаклю ніхто нават не задае пытанняў, поўнае ўзаемаразуменне!

Колькі я ні шукаў — не знайшоў прававога акта, які б абмяжоўваў тэрмін знаходжання вязня ў ШІЗА без выхаду. Максімальны тэрмін, колькі я знаходзіўся там без выхаду — дваццаць сутак, а агульны мой «стаж» на момант вызвалення падышоў да паўгода. Былы палітвязень Яўген Васьковіч правёў у ШІЗА магілёўскай крытай трыццаць сутак, а агулам адбыў там год. Пры мне аднаго хлопца трымалі ў ізалятары шэсцьдзясят сутак без выхаду — проста за тое, што ён не хацеў падпісваць «Обязательство о правопослушном поведении». А мой сукамернік па ўсё той жа «крытай» у 2005 годзе выседзеў у ШІЗА без выхаду сто восемдзесят сутак! Раз у пятнаццаць дзён яго выводзілі ў штаб, каб там выпісаць чарговае спагнанне, і адразу заводзілі назад. І так дванаццаць разоў...

Таму, калі вам калі-небудзь давядзецца пачуць ад мянта, былога або дзейнага, ці ад дзяржаўнага журналіста, ці ад прадажнага псеўда-праваабаронцы аб гуманных і еўрапейскіх стандартах утрымання ў беларускіх турмах, проста раскажыце ім пра начныя адціскanні, сто восемдзесят сутак у бетоннай каморцы і «паутинку»...

**Ліпень 2016 года**












## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Ці пісаў Чынгісхан кірыліцай?

Інфармацыйныя стужкі Казахстана апублікавалі сенсацыйнае паведамленне пра тое, што месца пахавання славутага мангольскага хана Чынгісхана стала вядома сям'і з Паўднёва-Казахстанскай вобласці. Больш за тое — муж і жонка самастойна амаль завяршылі раскопкі магілак. Свае работы яны прыпынілі выключна ў чаканні асабістага ўхвалення Нурсултана Назарбаева. Аказваецца, у 2014 годзе яны сасnілі вялікага заваёўніка, які асабіста прадэманстраваў месца свайго пахавання, папрасіўшы таксама, каб яго раскапалі выключна з дазволу Елбасы. Гісторыкі ў шоку ад таго, што СМІ ўсур'ёз успрымаюць заявы аматараў-археолагаў: усе гістарычныя крыніцы паведамляюць, што магіла заснавальніка Залатой Арды знаходзіцца ў Манголіі. Усё сведчыць пра тое, што перад намі тыповая фальсіфікацыя. Напрыклад, супругі-археолагі сцвярджаюць, што падчас раскопак знайшлі надпіс кірыліцай «Чынгісхан 1223», што яўна супярэчыць здароваму сэнсу. Аднак ідэя эксплуатаваць імя Чынгісхана для прыцягнення турыстаў даўно прысутнічае ў казахскай прэсе.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. «Салідарнасць» займалася тэрорам

Тэрарыстычны акт у гісторыі польскага антыкамуністычнага руху адбыўся 18 лютага 1982 года. Варшаўскі сяржант міліцыі Здзіслаў Карас сеў у трамвайны вагон. Побач стаялі двое падлеткаў, па выглядзе старшакласнікі. Раптам адзін з іх запатрабаваў ад міліцыянта здаць зброю, а пасля выхапіў пісталет і стрэліў. Праз пяць дзён Карас памёр у шпіталі. Падлеткаў хутка арыштавалі. Высветлілася, што гэта чальцы суполкі «Узброеныя сілы польскага падполля» (SZPP). Суполка складалася з маладых сябраў прафсаюзу «Салідарнасць», якія пасля ўвядзення вайсковага становішча расчараваліся ў мірных акцыях. Пад уплывам расповедаў пра Армію Краёву падлеткі вырашылі перайсці да баявых акцый. На першым этапе забіралі ў п'яных міліцыянераў зброю, пакуль не адбыўся інцыдэнт з Карасам. Паколькі выканаўцы забойства былі непаўнагадовымі, яны атрымалі не смяротныя пакаранні, а вялікія турэмныя тэрміны. Хутка «Салідарнасць» перамагла, і ўсё асуджаныя былі вызваленыя. Аднак у 1989 годзе тры актывісты SZPP, якія толькі вышлі з турмы, таямніча памерлі. Толькі зараз тэма SZPP і загадкавых забойстваў яе сябрамі пачала цікавіць грамадства.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Бывай, СССР?

Расійскае сацыялагічнае агенцтва «Лявада-Цэнтр» апублікавала вынікі апытання, у межах якога расіян прасілі ацаніць розныя формы дзяржаўнага кіравання ў краіне за апошняе стагоддзе. Непасрэдна пытанне задавалася ў фармулёўцы: «На працягу апошніх 100 гадоў у нашай краіне існавалі розныя формы дзяржаўнага кіравання. Як вы мяркуеце, калі жыццё ў Расіі было лепшым?». Такія апытанні праводзіліся і раней, і заўсёды самым улюбёным палітыкам у апытаннях стабільна выступаў Леанід Брэжнеў, пры якім узровень дабрабыту людзей дасягаў максімальнага значэння за ўсю гісторыю СССР. І вось нечаканa сімпатыі змяніліся. Паводле вынікаў апытання «Лявада-Цэнтру» за апошнія сто гадоў расіяне найлепш жывуць пры Пуціне. За такі варыянт выступаюць 32 працэнты апытаных. Тых, хто сумуе па эпосе застою, аказалася толькі 29 працэнтаў. Тое, што брэжнеўская і ўвогуле савецкая эпоха страціла прывабнасць, выглядае для шмат каго як пералом у постсавецкай свядомасці расіян. Аднак ёсць нестыкоўкі. Парадокс у тым, што людзі пазітыўна ацэньваюць сучаснае жыццё ў час, калі мае месца рэальнае падзенне даходаў і ўзроўню спажывання. У сувязі з гэтым ёсць думка, што сімпатыі на карысць Пуціна тлумачацца моцным уплывам прапаганды.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Як нацысты акупавалі Лондан

Мода на альтэрнатыўную гісторыю працягвае трыумфальна крочыць па планеце. Пасля таго, як у ЗША добрую рэакцыю гледачоў выклікаў серыял «Чалавек у высокім замку» (The Man in the High Castle) пра тое, як, быццам, немцы і японцы па выніках Другой сусветнай вайны захапілі ЗША, сваё слова сказаў брытанскі кінематограф. На экраны выходзіць серыял «SS-GB». «SS-GB» — гэта фантасмагорыя наконт таго, як бы выглядаў Альбіён у 1941 годзе ў выпадку гітлераўскай акупацыі. У такім выпадку, на думку сцэнарыстаў, краіна павінна была быць акупаванай цалкам, Чэрчыль і кароль Георг забітыя, а эміграцыйны ўрад спрабаваў бы каардынаваць антынацысцкую партызанку з Новай Зеландыі. У сваю чаргу СССР, які на той час быў партнёрам Берліна, мог атрымаць нейкі марскія базы на Альбіёне, якія б таксама былі цэнтрам шпіёнскай дзейнасці. Самае смешнае, што кадры фільма з выявамі акупаванага Лондану спадабаліся актывістам правай еўрафобскай Партыі за незалежнасць Аб'яднанага Каралеўства. На думку еўрафобаў, цяперашняй Брытаніі для вырашэння праблемы мігрантаў і крыміналу патрэбны менавіта такі паліцэйскі лад.

**Паводле брытанскай прэсы**

# «Адно з самых вялікіх адкрыццяў чалавецтва»

Алег НОВІКАЎ




Фота www.aple-at-the-tab.livejournal.com

**Часам яны вяртаюцца. Кампанія — уладальнік правоў на брэнд Nokia, заявіла пра намер адрадзіць папулярны тэлефон Nokia 3310, што выклікала ажыятаж па ўсім свеце.**

«Цэгла», «Чак Норыс», «Тэрмінатар», «Малаток», «Забойца Айфона» — такія не самыя ўхвальныя мянушкі заслужыла згаданая мадэль у народзе. На першы погляд, гэта цалкам дакладная ацэнка. Запушчаны ў вытворчасць у 2000 годзе тэлефон быў даволі буйны па памеры і трошкі цяжкі. Як смяяліся сучаснікі, уладальнікам Nokia 3310 не трэба шукаць тэлефон па пакоі — бо тэлефон будзе першым, на што, дзякуючы яго габарытам, вы звернеце ўвагу.

Акрамя таго, у Nokia 3310 не было такіх фішак, як інтэрнэту, каляровага экрана, камеры і паліфаніі. Змрочнасці дадавала тое, што сярод расфарбовак корпуса дамінаваў цёмна-сіні. Напэўна, невыпадкова ў фільме жахаў «Паўстаўшыя з пекла 8: Свет пекла» ўсе героі, якія трапілі на вечарыну ў дом з нячыстай сілай, выкарыстоўваюць менавіта гэтую мадэль тэлефона.

На самай справе, за іранічнымі мянушкамі мадэлі хавалася ўсенародная да яе любоў. Nokia 3310 стала ўвасабленнем паняцця «народны тэлефон». Агульная колькасць продажаў склала больш за 126 мільёнаў штук! Ніводная іншая мадэль у гісторыі мабільнай тэлефаніі не мела такога поспеху.

«Цэгла» падабалася людзям перш за ўсё праз аўру самага моцнага і даўгавечнага апарата. Тэлефон праславіўся высокай надзейнасцю: хадзілі легенды, што ім можна было адкаркаваць бутэльку піва, забіваць цвікі, выкарыстоўваць у вулічных бойках... Сярод уладальнікаў Nokia 3310 з часам паўстала мода правяраць тэлефон на трываласць. Тэсты былі самыя незвычайныя — тэлефон кідалі на асфальт з трэцяга паверха, тапілі ў гарбаце, аднак ён насуперак усяму ўпарта працаваў далей. Кажуць, былі выпадкі, калі 3310 працягваў працаваць нават з трэснутым напалову экранам і вывернутымі кнопкамі.

Былі ў апарата і іншыя звышкарысныя якасці. Такіх брытанскае выданне «Buzzfeed» налічыла цэлых пятнаццаць. Перш за ўсё, гэта батарэя, якая трымала моц 260 гадзінаў. Не патрабаваў абароны экран. З гэтым сотавым можна было працаваць на сонцы. У адрозненне ад сучасных тэлефонаў, мабіла амаль не глючыла. Усе модулі былі здымнымі, дзякуючы чаму любыя дэталі можна было пачысціць або замяніць. Добры дынамік (чуваць нават у шумным месцы), простае і зразумелае меню і гэтак далей. На базе ўсяго вышэй сказанага «Buzzfeed» заяўляе: Nokia 3310 — «адно з самых вялікіх адкрыццяў чалавецтва».

У доказ гэтай высновы таксама прыводзіцца факт, што дасюль у людзей на руках хапае «жывых» апаратаў, якія даўно не вырабляюцца. Брытанская прэса надала аднаму з уладальнікаў Nokia 3310 тытул «уладальнік самага старога працуючага мабільнага тэлефона». Маюць на ўвазе нейкага жаўнера, які застаецца верным сваёй Nokia 3310 з 2000 года. Яго апарат перажыў мыццё ў пральнай машыне, мноства падзенняў і службу са сваім уладальнікам у Іраку і Афганістане.

І вось легендарная мадэль вяртаецца. Новы выпуск будзе прадстаўлены на Mobile World Congress, які пройдзе ў Барселоне з 27 лютага па 2 сакавіка 2017 года. Ужо вядома, што новая версія тэлефона будзе каштаваць 59 еўра. Да амаль легендарнай моцы корпуса, вялікай працаздольнасці і іншых якасцяў у новай мадэлі будзе сістэма абароны ад вады і пылу, а таксама акумулятар, які дазволіць тэлефону працаваць без зарадкі на працягу вельмі доўгага часу.

Узнікае лагічнае пытанне: каму патрэбны сёння артэфакт мінулага, нават калі ён быў такім культавым і легендарным? Не спяшайцеся з адказам. Маркетолагі сцвярджаюць, што ў апошні час усё больш людзей сталі адмаўляцца ад наварочаных гаджэтаў на карысць больш простых мадэляў. Прычына ў тым, што ў сучасных смартфонах стала занадта шмат непатрэбных для большасці карыстальнікаў функцый. Ёсць тэорыя, што яны выклікаюць стрэс і нават могуць прывесці да нервовага зрыву. У той жа час дзве асноўныя функцыі тэлефона — званіць і дасылаць СМС-паведамленні — за апошнія два дзесяцігоддзі істотна не змяніліся.

Другая фокусная група патэнцыйных пакупнікоў адроджанай Nokia 3310 — людзі, якім сёння 30–40 гадоў. Шмат у каго з гэтай катэгорыі першай мабілай у жыцці была менавіта гэтая мадэль. Спадзяюцца, што на хвалі настальгіі яны кінуцца набываць «цэглу». На інтэрнэт-форумах сапраўды сёння хапае споведзяў, аўтары якіх згадваюць часы юнацтва, сімвалам якога, па іх версіі, была славутая Nokia 3310.

Такімі людзьмі кола зацікаўленых у навінцы не абмяжоўваецца. Прэса адзначае, што на тых жа інтэрнэт-форумах Nokia 3310 усё часцей успрымаюць як сімвал дакрызісных часоў. Сапраўды, бум папулярнасці мадэлі прыйшоўся на заможныя 2000-я, калі не было рэцэсіі, «арабскай вясны», вайны на Данбасе, Трампа і іншых прыколаў. Адны словам, да ўсіх функцый Nokia 3310 дадаецца і функцыя псіхатэрапеўтычнага сродку.

Застаецца дадаць, што ў Беларусі таксама хапае аматараў старых Nokia. Сярод іх — Аксана Колб, рэдактарка выдання «Новы Час». Хто больш кампетэнтна, чым калега, адкажа на пытанне, чаму «дапатопная» мабіла застаецца дасюль запатрабаванай, і ці здольная адроджаная Nokia паўтарыць былы фурор?

— На жаль, у мяне няма Nokia 3310, а ўсяго толькі Nokia 1100, якой ужо, дарэчы, 12 гадоў. І ўсе гэтыя гады яна мяне ніколі не падводзіла. Акрамя ліхтарыка, у гэтай мадэлі ёсць яшчэ некалькі пераваг. Галоўная з іх — нават пры інтэнсіўных размовах зарадкі акумулятара хапае на 4–5 дзён. Між іншым, акумулятар я таксама пакуль не мяняла. А яшчэ тэлефон вельмі гучны, і на яго экране ўсё бачна ў любы сонечны дзень. Хаця добрая камера і дыктафон, магчыма, і не перашкодзілі б.

Ці паўторыць адроджаная Nokia 3310 былы поспех? Гэта ўжо залежыць ад прафесіяналізму і амбітнасці маркетолагаў.

# Канада на шляху да папулізму

Алег НОВІКАЎ



Фота www.peopleandcountries.com

**Нягледзячы на супярэчлівыя крокі адміністрацыі Дональда Трампа, яго імя застаецца факелам для папулістаў ва ўсім свеце. Наступнай ахвярай «эфекту Трампа» некаторыя палітолагі называюць суседнюю Канаду.**

У амерыканскім ліберальным дыскурсе Канада ўспрымаецца як запасны аэрадром. Амерыканцы прагрэсіўных поглядаў лічаць, што ў крытычнай сітуацыі заўжды можна будзе паспець дабегчы да канадскай мяжы. Нездарма сінхронна з навінамі пра перамогу Трампа «лёг» сайт канадскай міграцыйнай службы — занадта шмат амерыканцаў хацелі атрымаць доступ да інфармацыі пра правілы міграцыі на Поўнач.

Тое, што лібералы ЗША разглядаюць у якасці палітычнага прытулку менавіта Канаду, шмат у чым тлумачыцца феноменам Джастына Трудо, 45-гадовага прэм'ера ад ліберальнай партыі, які выглядае антаганістам Трампа. Ён падтрымлівае жаночы рух і сэксуальныя меншасці, абараняе прынцып празрыстасці прыняцца рашэнняў, пашырае квоту для мігрантаў, аператыўна рэагуе на гуманітарныя катастрофы за мяжой.

Між тым, апошні час канадская і еўрапейская прэса ўсё часцей заклікае янкі — аматараў размяняць амерыканскую прапіску на канадскую, — не спяшацца. На іх думку, славутая ліберальная Канада не мае імунітэту супраць папулізму, пра што ў тым ліку яскрава сведчаць рапарты сацыёлагаў.

Паводле апошніх апытанняў, 80 працэнтаў канадцаў лічаць, што ўлада адарвалася ад народу. Кожны другі жыхар краіны занепакоены ростам колькасці мігрантаў. Яшчэ адзін якасны індыкатар пагрозы папуліцскай рэвалюцыі — нізкая ступень даверу да прэсы (каля 40 працэнтаў). Не дзіўна, што аўтарытэтнае выданне «Toronto Star» б'е ў званы: «Сістэма разбураная. Ніхто ў яе не верыць. Надзей на захаванне цяперашняй мадэлі больш няма».

Падставы для антысістэмных настрояў, у прынцыпе, трывіяльныя. Краіна даволі шмат часу не здольная прайсці курс рэабілітацыі ад наступстваў фінансавага крызісу 2008-га. З таго часу назіраецца стагнацыя заробкаў, скарачэнне інвестыцый у публічныя службы, высокі ўзровень беспрацоўя і, як следства, рост эксплуатацыі персаналу.

З падобнымі праблемамі сутыкнулася большасць краін Захаду, аднак у Канадзе стан рэчаў яшчэ горшы. Ніводная з партый істэблішменту не ўспрымаецца як рэальная альтэрнатыва. Па-сутнасці, згаданы Джастын Трудо быў шмат для каго апошняй надзеяй на тое, што традыцыйныя палітструктуры здольныя нешта зрабіць. Негалосна лічылася, што ён нейкім чынам тэлепартуе краіну ў сытыя 1970-я гады, калі Канадай кіраваў яго бацька. Аднак праз шмат прычынаў кабінет Трудо працягвае антысацыяльны курс папярэдняга ўраду кансерватараў, ствараючы запыт на мясцовую версію Трампа.

І такі чалавек ужо з'явіўся. Яго імя Кевін О'Леары. У яго і Дональда Трампа шмат агульнага. Абодва паспяховыя бізнесоўцы (праўда, канадзец скалаціў капітал у сферы новых тэхналогій). Абодва маюць вельмі паспяховы досвед у якасці вядучых тэлешоў. О'Леары, як і цяперашняму гаспадару Белага дома, уласцівы вельмі развязаны стыль камунікацыі, схільнасць да брутальных ацэнак.

**Як і Трамп, О'Леары не быў партыйным функцыянерам і мае намер проста выкарыстаць кансерватыўную партыю. Кансерватары ад гэтага не ў захапленні**

Абодва з'яўляюцца прыхільнікамі кансерватыўных каштоўнасцяў — вераць у патэнцыял свабоднага бізнесу, які трэба вызваліць ад падаткаў і забяспечыць дамінаванне на ўнутраным рынку за кошт пратэкцыяністскіх захадаў. Абодва выступаюць за больш шырокую аўтаномію суб'ектаў федэрацыі. О'Леары ўвогуле ў выпадку перамогі абяцае ператварыць Канаду ў канфедэрацыю па прыкладзе Швейцарыі.

Што тычыцца знешнепалітычных поглядаў, дык О'Леары выступае за тое, каб Канада адмовілася ад удзелу ў знешнепалітычных акцыях, напрыклад, бамбардзіроўках цэнтраў Ісламскай дзяржавы ў Іраку і Сірыі. На яго думку, прыярытэт канадскай знешняй палітыкі — абарона межаў з дапамогай новых тэхналогій. Аднак пры гэтым ён пазіцыянуе сябе прыхільнікам захавання NATO. Сваё стаўленне да пуцінскай Расіі ён выказаў наступным чынам: «Расія для нас — не саюзнік, але і не вораг».

Як і Трамп, О'Леары ніколі не быў партыйным функцыянерам і мае намер выкарыстаць у якасці платформы для паходу ва ўладу мясцовую кансерватыўную партыю. Яшчэ 18 студзеня ён абвясціў пра старт сваёй кампаніі за тое, каб стаць лідарам кансерватараў на федэральных выбарах 2019 года. І, як у выпадку з Трампам, які эксплуатаваў брэнд і структуры рэспубліканцаў, наменклатура кансерватараў не ў захапленні ад такога сцэнару. Адзін з лідараў кансерватараў назваў О'Леары «турыстам».

Ёсць, аднак, і адрозненні. Перш за ўсё, О'Леары нарадзіўся ў сям'і мігрантаў. Яго бацька — ірландзец, а маці ліванка (дарэчы, легендарная канадская бізнесвумен). Магчыма, таму «канадскі Трамп» не такі катэгарычны наконт мігрантаў. Ён гатовы пускаць іншаземцаў у Канаду пры ўмове, што тыя маюць дыпломы ВНУ. Канадзец больш за Трампа паважае традыцыйныя сямейныя каштоўнасці. У яго біяграфіі быў толькі адзін шлюб, у выніку якога нарадзілася двое дзяцей. Ён таксама больш талерантна, чым Трамп, ставіцца да пытання легалізацыі марыхуаны і правоў на аборты.

У любым выпадку, самае цікавае пачнецца ў маі, калі кансерватыўная партыя збярэцца на выбары новага правадыра. Кан'юнктура яўна спрые О'Леары. На гэтым тыдні Канада заявіла пра тое, што ўзмацняе кантроль на мяжы з ЗША праз рост колькасці выпадкаў нелегальнага пераходу мяжы патэнцыяльнымі ўцекачамі. У масе сваёй уцекачы, якія накіраваліся ў Канаду, раней марылі пра прытулак у Злучаных Штатах. Паколькі з-за жорсткай антыміграцыйнай палітыкі Трампа ім яўна нічога не свеціць, даводзіцца абіраць канадскі варыянт. Шмат хто лічыць, што за наплыў мігрантаў нясе адказнасць Джасцін Трудо, які зрабіў Канадзе імідж краіны, што гатова прымаць любую колькасць уцекачоў.

Але для балаціроўкі ў федэральныя прэм'еры ў О'Леары не хапае адной дробязі. Ён не валодае французскай мовай, што робіць яго чужым у вачах франкафонаў-квебекцаў. Так што, пакуль вы чытаеце гэты артыкул, канадскі Трамп ва ўсю вывучае мову Вальтэра. Часу ў яго, трэба прызнаць, няшмат.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Віктар Орбан



Прэм'ер Венгрыі, лідар партыі «Fidesz», якога лічаць адным з найбольш аўтарытарных палітыкаў у ЕС, даўно маргіналізаваў мясцовую апазіцыю. Аднак тая ўпарта адмаўляецца капітуляваць і прыдумляе самыя незвычайныя сродкі супраціву.

Апошняе ноу-хау венгерскіх «адмарозкаў» — выказванне пратэсту на адрас Орбана праз тэму Алімпіяды. Справа ў тым, што Будапешт выставіў сваю кандыдатуру як сталіцу летняй Алімпіяды 2024 года. Натуральна, алімпійскія амбіцыі сталі падставай піяру ўраду, які ўжо інвеставаў у рэкламу праекту прорву грошай. Аднак нечакана з'явілася грамадзянская ініцыятыва «Momentum», якая здолела сабраць за 30 дзён 266 151 подпіс пад патрабаваннем правядзення рэферэндуму наконт гэтага спартыўнага мерапрыемства. Апазіцыйны электарат баіцца, што Алімпіяда будзе рымейкам Алімпіяды 1936 года ў Берліне.

У большасці венгры негатыўна ставяцца да ідэі Алімпіяды — праз тое, што яна будзе каштаваць бюджэту каля 1,5 мільярда еўра, якія, быццам бы, могуць быць раскрадзеныя.

Пакуль не зразумела, якой будзе рэакцыя Орбана на поспех «Momentum». Цяпер урадавая партыя «Fidesz» намагаецца давесці, што частка подпісаў фальшывыя. Аднак сабраных подпісаў аж удвая больш, чым патрабуе закон (згодна з законам, для арганізацыі плебісцыту неабходныя подпісы 10 працэнтаў выбаршчыкаў, або 139 тысяч чалавек). З іншага боку, большая частка парламенцкай апазіцыі, акрамя партыі Зялёных, не падтрымлівае ідэю рэферэндуму, што дае Орбану шанец заблакаваць ініцыятыву плебісцыту.

### Алег Ляшко



Калі верыць украінскай прэсе, лідар украінскай папуліцскай Радыкальнай партыі і яго паплечнікі абмяркоўваюць варыянт вяртання ва ўрадавую кааліцыю, адкуль выйшлі летась. У гэтым выпадку ўлада вырашае вельмі цяжкі крызіс дэфіцыту неабходнай колькасці мандатаў для фармавання ўрада.

Уладныя партыі — Блок Парашэнкі і Народны фронт — колькасна складаюць меншасць у Вярхоўнай Радзе і, паводле Канстытуцыі, не маюць права фармаваць урад. Менавіта на гэтым спекулюе апазіцыя, і перш за ўсё Юлія Цімашэнка, якая патрабуе датэрміновых выбараў. За кошт інкарпарацыі радыкалаў у Кабмін праблема легітымнасці ўраду быццам бы здымаецца, аднак праект мае свае падводныя камяні. Ляшко — заўзяты папуліст, рэйтынг якога трымаецца выключна на крытыцы любога, хто стаіць пры ўладзе, і сумнеўна, што ён здрадзіць сваім правілам. Больш за тое, менавіта лідар радыкалаў у выпадку перафарматавання кааліцыі павінен стаць спікерам парламенту — то бок атрымае магчымасць казаць усё, што заўгодна і колькі заўгодна, ужываючы ў тым ліку сваё любімае слова «скотиняки».

Няма сумневаў, што маналогі Ляшко толькі абвостраць супярэчнасці ў парламенце. Праўда, пакуль Ляшко не даў канчатковай згоды на ўдзел у агучанай схеме, бо не гарыць жаданнем прывязваць сябе да непапулярнай адміністрацыі Парашэнкі.

### Джордж Клуні



Імя славутага амерыканскага акцёра нечакана ўсплыло падчас дэбатаў актыву Дэмакратычнай партыі. Некаторыя з дэмакратаў лічаць, што менавіта Клуні павінен стаць кандыдатам на наступных прэзідэнцкіх выбарах, што адбудуцца ў 2020-м.

На карысць кандыдатуры Клуні сапраўды хапае аргументаў. Яго імя дакладна вядомае кожнаму амерыканцу дзякуючы поспеху стужак з яго ўдзелам. Клуні заўжды меў актыўную грамадзянскую пазіцыю, удзельнічаў у шматлікіх кампаніях. Нарэшце, шмат каму падабаецца ідэя, калі першай лэдзі будзе яго жонка Альма Клуні — вядомая адвакатка па пытаннях правоў чалавека. Сярод моцных якасцяў Клуні як магчымага кандыдата называюць і інтэлект, і добрага пачуццё гумару. За кошт жартаў Клуні, мяркуюць, зможа лёгка парыраваць істэрычныя сеансы Трампа.

Праўда, Клуні як кандыдат можа не спадабацца фракцыі «ястрабаў» праз свае пацыфісцкія погляды. Ён часцяком выказваўся супраць замежных вайсковых інтэрвенцый ЗША — напрыклад, у Ірак у 2003 годзе. Акрамя таго, незразумела, як грамадскасць паставіцца да таго, што Альма Клуні прадстаўляе інтарэсы Джуліяна Асанжа — заснавальніка інтэрнэт-праекту WikiLeaks, які апублікаваў звышсакрэтныя дакументы ў тым ліку адміністрацыі ЗША, што моцна падмачыла імідж краіны. Прынамсі, папярэдні дзяржсакратар Хілары Клінтан лічыла Асанжа ледзь не ворагам нумар адзін, і нават дапускала яго забойства.

# Прафесійны паўстанец Ільдэфонс Анцыпа

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Сярод удзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў была вялікая колькасць прафесійных змагароў, якія ўсё жыццё прысвяцілі барацьбе ў імя ўласных ідэалаў. Да іх ліку належаў ураджэнец вёскі Мілавань, што каля Гродна, Ільдэфонс Анцыпа, удзельнік паўстання 1830 года і «Вясны народаў» 1848 года.**

## У змаганні за волю

Ільдэфонс Анцыпа нарадзіўся на Гродзеншчыне каля 1815 года, атрымліваў адукацыю ў Слонімскай павятовай вучэльні, але ў сувязі з удзелам у паўстанні 1830–1831 гадоў быў вымушаны выправіцца ў эміграцыю ў Францыю і зарабляць кавалак хлеба рознымі падпрацоўкамі. У выніку пасля доўгіх пошукаў, ён стаў пісаць артыкулы на паўстанцкую тэматыку, закранаючы як гісторыю, так і тактыку партызанскай барацьбы. Таму, калі ў 1848 годзе Еўропа скаланулася «Вясною народаў», 33-гадовы Ільдэфонс перабраўся ў Прусію, дзе на землях колішняга Каралеўства Польскага намагаўся скарыстацца сваім досведам як у тэарэтычных, так і ў практычных пытаннях.

У выніку ён узначаліў атрад з ліку сялян на Познаньшчыне, што ставіў на мэце вырашэнне праблем, узнятых у свой час Міхалам Валовічам, Францам Савічам і Шымонам Канарскім, якія выступалі ў падтрымку правоў прыгнечанага вясковага насельніцтва. Але Анцыпа чарговы раз стаў сведкам паразы паўстанцкіх атрадаў у змаганні з рэгулярнымі войскамі і вымушаны быў зноў выправіцца ў Францыю.

## Вяртанне на Радзіму

Пасля ўзыходжання на расійскі трон імператара Аляксандра II для былых паўстанцаў была абвешчана амністыя і дазвол вярнуцца на радзіму, чым і скарыстаўся Ільдэфонс Анцыпа. У 1859 годзе ён знайшоў прытулак у фальварку Вялікія Бяловічы Быхаўскага павета, якім валодаў яго брат Іясафат.

За былымі паўстанцамі ўсталёўваўся паліцэйскі нагляд, які, аднак, не перашкодзіў Ільдэфонсу здзяйсняць падарожжы па Магілёўскай губерні і стаць адным з актыўнейшых дзеячаў таемнай рэвалюцыйнай арганізацыі, якая рыхтавала чарговае паўстанне на землях былой Рэчы Паспалітай. Гэтым разам яго збіраліся пашырыць да Волгі: праз Смаленскую губерню ахапіць усю Цэнтральную Расію. Для ўцягвання сялян у барацьбу меркавалася павесіць некальскі землеўладальнікаў, якія найбольш прыгняталі сялян, а таксама выказаць павагу праваслаўнаму духавенству, як адбывалася падчас захопу атрадам Звяждоўскага мястэчка Горкі. Менавіта на гэтыя пункты была звернута пільная ўвага кіраўнікоў атрадаў Магілёўшчыны, якія сабраліся 12 красавіка 1863 года ў фальварку Здзіслава Міткевіча Ліцвінава Горацкага павета.



## Паўстанне ад Віслы да Волгі



Выступленне пачалося ў ноч на 24 красавіка. На чале паўстанцаў стаяў капітан Людвік Звяждоўскі, які меў намер аб'яднаць шэсць ініцыятыўных групаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў у адзін кулак, што павінен быў за кошт мясцовых сялян вырасці да 15 тысяч чалавек і затым накіравацца ў цэнтральныя раёны Імперыі. Удзельнік атрада Здзіслаў Міткевіч у сваіх паказаннях адзначаў, што паўстанцы збіраліся пры пашыранні барацьбы «сбросить все носящее на себе даже тень польского происхождения» і не абмяжоўвацца нацыянальным і сацыяльным становішчам удзельнікаў.

Амаль ва ўсіх паветах Магілёўскай губерні, за выключэннем Чавускага, Гомельскага і Клімавіцкага, былі арганізаваныя паўстанцкія атрады: у Горацкім — Звяждоўскага, у Мсціслаўскім — памешчыка Ігната Цеханавецкага, у Магілёўскім — памешчыка Міхала Макавецкага, у Аршанскім — падпаручніка Ігната Будзіловіча, у Рагачоўскім — Тамаша Грыневіча, у Сенненскім — падпаручніка артылерыі Канстанціна Жаброўскага, у Крычаўскім — падпаручніка артылерыі Яна Алаізія Жукоўскага, а ў Быхаўскім — Ільдэфонса Анцыпы. Ваенным кіраўніком падраздзялення Анцыпы быў Ян Манцэвіч, прапаршчык 3-й зводнай артылерыйскай брыгады, які пайшоў у паўстанцы разам з братам.

Аснову атраду склалі 12 чалавек з маёнтка Закупленне памешчыка Антонія Манкевіча, адзін са сваякоў якога — Іван Восіпавіч Манкевіч, быў арыштаваны незадоўга да выступлення, 20 красавіка, як «агент Літоўска-Беларускага цэнтральнага камітэта», прыкрыццём для якога стала было, што «Господин же Киркор обязал меня ездить в Могил. губ. именно потому, что здесь находятся мои родственники и что Белоруссия моя родина». Яшчэ ў 1860 годзе Манкевіч, які актыўна займаўся перакладамі на «белорусское наречие» басняў Крылова, быў сасланы ў Сібір.

## Правакацыі і «інфармацыйная вайна»

Вялікай праблемай паўстанцаў стала неўлічванне становішча, якое было ў Магілёўскай губерні, і адносінаў сялян да паўстанцаў. З першага ж дня выступлення сярод вяскоўцаў распаўсюджваліся плёткі і чуткі пра жахі, якія нібыта чынілі ўдзельнікі антыцарскага выступу з мясцовым насельніцтвам. Моцна паўплывала на магілёўскіх сялян вестка пра тое, што паўстанцы выразалі жыхароў і спалілі вёску Цёплае — што было суцэльнай выдумкай. Аднак яна актыўна распаўсюджвалася праваслаўнымі святарамі, кшталту святара Даўгамохаўскай царквы Быхаўскага павета Паўла Крупскага. Да таго ж сяляне адразу зразумелі магчымасць атрымання грошай за злоўленых паўстанцаў, чым актыўна скарысталіся.

У Магілёўскай і Віцебскай губернях пачаліся падпалы і знішчэнні шляхецкіх маёнткаў. У Дзінабургскім павеце была спалена сядзіба памешчыка Станіслава Моля, а жаночая частка яго сям'і была згвалтаваная.

**За былымі паўстанцамі ўсталёўваўся паліцэйскі нагляд, які не перашкодзіў Ільдэфонсу стаць адным з дзеячаў таемнай рэвалюцыйнай арганізацыі**

Пазней у расійскіх афіцыйных выданнях гэтае здарэнне выкарыстоўвалі ў прапагандысцкіх мэтах, каб паказаць стаўленне мясцовых жыхароў, у першую чаргу сялян, да ўдзельнікаў паўстання і спачуваючых ім. Але насамрэч сярод дзевяці арыштаваных па той справе сялянамі былі толькі тры чалавекі. І ўсе яны былі вызваленыя генералам Длатоўскім з-пад адказнасці.

Ні абвешчанае вызваленне сялян ад павіннасцяў, ні бясплатнае карыстанне памешчыцкай зямлёй не атрымалі падтрымкі сярод сялян Усходняй Беларусі.

Супраць атрада Анцыпы, які не перавысіў колькасць у 24 чалавекі, 27 красавіка па наводцы быхаўскага павятовага спраўніка ў фальварак Балонаў-Сялец прыбыла 15-я рота 4-га рэзервовага батальёна Смаленскага пяхотнага палка штабс-капітана Кусонскага. Тут ён даведаўся, што ў ваколіцах вёскі Сялец знаходзяцца два атрады паўстанцаў: адзін у накірунку маёнтка памешчыкаў Славінскіх у лесе паблізу вёскі Залатва, а другі непадалёк фальварка, дзе знаходзілася станавая канцылярыя, якую паўстанцы мелі намер падпаліць. У 11 гадзін ночы Кусаноўскі з 35 салдатамі накіраваўся пераследаваць паўстанцкі атрад да Залатвы, другую ж частку свайго падраздзялення ў колькасці 36 чалавек пакінуў у фальварку пад камандай падпаручніка Ліпінскага.

## Бой каля фальварка Неапалітанскі

Пераадолеўшы каля 60 вёрстаў, 28 красавіка аддзел Кусонскага нарэшце напаткаў у лесе каля вёскі Язвы, паблізу фальварка Неапалітанскі памешчыкаў Славінскіх атрад Анцыпы. Завязаўся бой, але паўстанцы былі дрэнна ўзброеныя і не мелі магчымасці супрацьстаяць арганізаванай баявой адзінцы. Адступленне ператварылася ў бегства, па выніках якога паўстанцы пакінулі на полі бою 11 ружжаў і 2 кані.

Пры гэтай перастрэлцы быў паранены рускі Гаўрыла Нечытайлаў «дробиною в нос против левого глаза», а адзін з сялянаў вёскі Залатва Восіп Іваноў, які выступіў на баку расійскіх войскаў, быў смяротна паранены шляхціцам з Троцкага павета Блажэем Мацкевічам у жывот.

Пазней Мацкевіч быў пазбаўлены дваранства з канфіскацыяй маёмасці і сасланы на 12 гадоў катаргі. А расійскія ўлады выплацілі жонцы Восіпа Іванова 160 рублёў срэбрам.

Кусаноўскі адмовіўся ад пераследу паўстанцаў па моцна забалочанай мясцовасці і лесе, маючы пагрозу з боку іншага паўстанцкага атрада. Сяляне ваколічных вёсак актыўна адлоўлівалі паўстанцаў, сярод якіх апынуўся і Ільдэфонс Анцыпа.

Падчас допытаў ён прызнаўся, што дзейнічаў ад імя паўстанцкага Цэнтральнага камітэта. Яму інкрымінавалася спаленне ўрадавых дакументаў і папер, пашкоджанне тэлеграфа. Трэцяга чэрвеня ён быў аддадзены ў Магілёве пад ваенны суд, які ўжо 5 чэрвеня вынес смяротны прысуд, падпісаны камандуючым войскамі Магілёўскай губерні, генерал-маёрам Яшвілям.

На наступны дзень, 6 чэрвеня 1863 года, Ільдэфонс Анцыпа быў расстраляны ў Магілёве, разам з трыма іншымі паўстанцамі. Усе яны спрабавалі ўзняць паўстанне ў рэгіёне, дзе адным з таемных пароляў было: «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Так узаемна!».



# Якія мы гаспадары, такія і нашыя двары

Віктар ЦІТОЎ

**Двор у беларусаў здаўна быў паказчыкам паўсядзённай культуры і дабрабыту. Ён сведчыў пра ўладкаванасць і парадак не толькі ў сям'і, але і наогул у грамадстве.**


Лямус у Музеі Адама Міцкевіча ў Завоссі



Варыўня

## Мегапаняцце

Чаго толькі ні разумелі пад паняццем «двор» — гэта сядзіба разам з агародам, жыллём, гаспадарчымі і падсобнымі памяшканнямі. Двор — гэта сама гаспадарка разам з адпаведным інвентаром і пабудовамі. Двор — гэта асноўная структурная часцінка вёскі, адзінка падаткаабкладання, той жа *дым*. Двор — гэта адміністратыўная ці прамысловая ўстанова (гасцінны двор, заезды двор, манетны двор, калгасны двор). Двор — гэта ўнутраная прастора паміж надворнымі памяшканнямі (адсюль: выйсці з хаты на двор; на дварэ гуляе завіруха). Дарэчы, *надвор'е* мае тую ж этымалогію, зыходную аснову. Пад словам *двор* здаўна разумелі і панскі маёнтак, і княжацкую рэзідэнцыю, і царскі (або каралеўскі) двор. Нарэшце, двор — гэта людзі, яго ўладальнікі, службоўцы, работнікі і шматлікая чэлядзь. Адсюль паходзяць і цэлыя сацыяльныя катэгорыі — *дваране, дваровыя людзі, дворня* і гэтак далей.

На працягу стагоддзяў двор перажыў істотныя змены, якія адлюстроўвалі сацыяльную і эканамічную эвалюцыю грамадства. Народная практыка выпрацавала разнастайныя архітэктурныя формы і каноны будаўніцтва, якія ўвасаблялі ў сабе багаты гістарычны вопыт многіх пакаленняў і дакладна адпавядалі функцыянальнаму прызначэнню тых ці іншых пабудоў, іх месцу ў сістэме двара і сацыяльнаму статусу гаспадароў.

## Што ў двары?

Грунтам сялянскага двара-сядзібы было жыллё. Усе іншыя памяшканні дапасоўваліся да яго і размяшчаліся ў пэўнай паслядоўнасці — у залежнасці ад функцый, мэтазгоднасці, мясцовых традыцый, сацыяльнага статусу і індывідуальных густаў гаспадароў. Сярод дваровых пабудоў вылучаліся *клець, свіран, варыўня* (стопка), *склеп (пограб), гумно, сушня* (асець, ёўня), *павець, адрына, вазоўня, абарог, лазня, хлявы, студня, майстэрня* і іншыя.

**Клець** *(камора, кладоўка, спіжарня, свіран)* — паўжылое памяшканне для захоўвання збожжа, прадуктаў, бытавых рэчаў, адзення. Каля сцяны адгароджваліся засекі для збожжа, побач стаялі бочкі, кадоўбы, саламяныя карабы з розным зернем, крупамі, мукой, макам і інш. Тут захоўвалі кубельцы з салам, бочкі з квасам, сокам, на бэльках ці вышэй на скляпенні падвешваліся кумпякі, шынкі, кілбасы, кашы з палявдзіцай і іншымі мяснымі прыпасамі. Тут жа стаялі куфар ці кубел з рукадзеллем, тканінамі, адзеннем, ложак, дзе летам спалі, — звычайна маладыя члены сям'і.

Як пісаў даследчык Палесся ў пачатку XX стагоддзя Аляксандр Сержпутоўскі, маладыя на Мазыршчыне жывуць у клеці, для іх лічыцца непрыстойным спаць у хаце нават узімку. А клецяў у сямейнай гаспадарцы бывае некалькі — па колькасці жанатых мужчын. Загадзя, напярэдадні вяселля, жаніх і яго бацька рупяцца пра ўладкаванне асобнай клеці для маладажонаў. Заўважым, што на Палессі яшчэ ў пачатку XX стагоддзя захоўвалася вялікая трохпакаленная сям'я на 10–17 чалавек (бацька з маці, іх жанатыя сыны і ўнукі), якая выступала як адзіны працоўны калектыў з агульнымі інтарэсамі.

**Свіран** *(імбар, шпіхлер, лямус)* — пабудова, блізкая па сваіх функцыях да клеці. Свіран служыў для захоўвання адборнага збожжа і будаваўся звычайна асобна ад жылля. Небагатыя гаспадаркі абыходзіліся адным памяшканнем — свірнам ці клеццю, якія часта фігуруюць як ідэнтычныя паняцці. У больш заможных сялян былі адначасова і клець, і свіран. Як і клець, свіран будаваўся на высокіх штандарах ці палях (да 1 метра і вышэй над зямлёй), меў грунтоўна ўладкаваны дах, скляпеністую (гарбатую) столь, падлогу са шчыльна падагнаных дошак і засекі для збожжа. У Панямонні і Паазер'і будавалі і двухпавярховыя свірны — *лямусы* з галерэяй на ўзроўні другога паверха. Яны былі распаўсюджаны ў фальварках і засценках — такі можна пабачыць у музеі Адама Міцкевіча ў Завоссі.

Існавалі і грамадскія свірны, якія вылучаліся памерамі. Туды аднавяскоўцы восенню звозілі частку свайго збожжа «на пажарны выпадак» і маглі яго свабодна атрымаць у канцы зімы ці вясной — пры яго нястачы або для сяўбы.

**Варыўня** *(стопка, прыізбіца, стахоўка)* — паўназемнае памяшканне, апушчанае дзесьці на паўмера ў зямлю — служыла для захоўвання гародніны, садавіны, бульбы, малочных прадуктаў, саладухі, квасу. Варыўня мела земляную ці глінабітную падлогу. Тут адгароджваліся адсекі, куды ссыпалі буракі, бульбу, моркву, рэпу, бручку. Бліжэй да ўваходу стаялі кадкі з квашанай капустай, буракамі (у расоле), агуркамі, хлебным квасам, сокамі, півам, гладышы з малаком. У сярэдзіне памяшкання ўладкоўваўся невялікі ачаг-жароўня, дзе ўзімку перыядычна палілі лучыну ці ставілі пасудзіну з жарам, каб падтрымліваць пастаянную тэмпературу. У Беларусі варыўні будавалі пераважна там, дзе да паверхні падыходзілі грунтовыя воды, — на Палессі, у Паазер'і, часткова ў басейне Бярэзіны і Нёмана. На астатняй частцы іх функцыі выконвалі скляпы.

**Склеп** *(пограб, лёх, байрак)* — заглыбленае ў зямлю памяшканне тыпу зямлянкі, якая ў многіх выпадках і паслужыла прататыпам склепа. Аднак склеп і пограб не заўсёды ідэнтычныя: склеп (або лёх) часцей рабіўся ў сістэме жылля (пад сенцамі ці клеццю) і меў мураваныя ці драўляныя сцены. Паграбы ж звычайна рыліся асобна ад жылля. Яны мелі наземнае збудаванне — паграбню ў выглядзе стрэшкі на сохах або невысокага зруба. На схілах прырэчных тэрас, у падножжы пагоркаў яны рабіліся без паграбні і мелі бакавы ўваход.

Да паграбоў вельмі блізкія ямы-схованшчы. Іх капалі воддаль ад сядзібы або ў лесе. Пра іх паведамляў Аляксандр Гваньіні (1538–1614), італьянскі вайсковец, што ў часы Рэчы Паспалітай служыў ротмістрам Віцебскага замка. Мясцовыя жыхары, пісаў ён, «жнуць і малоцяць збожжа і захоўваюць яго ў свірнах, некаторыя маюць звычай захоўваць збожжа ў выкапаных у глухім лесе падзямеллях, старанна выкладзеных знутры карой дрэў (звычайна бяростай). Туды ж беднякі зносяць усе харчы, сала і іншыя жыццёвы прыпасы, а таксама адзенне і лепшае хатняе начынне, асабліва ў час вайны, для захавання ад ворагаў, а таксама сваіх жа салдат».

Такія спосабы захавання прыпасаў і маёмасці практыкаваліся і пазней, нават у часы Другой сусветнай вайны, калі мясцовае «талерантнае» насельніцтва прыстасоўвала свой лад жыцця да ўмоваў ваеннага часу. Напрыклад, у вёсках Крупскага і Барысаўскага раёнаў пасля вайны паралельна з варыўнямі распаўсюдзіліся і паграбы; пад іх тутэйшы люд прыстасоўваў зямлянкі, якіх было шмат у гэтым партызанскім краі.

**Клеці і свірны са збожжам, гумны, асеці, адрыны, вазоўні паводле савецкай ідэалогіі лічыліся прыкметай кулацкіх гаспадарак, замінalі будаўніцтву камунізму**

**Гумно** *(клуня, стадола, рыга)* — гаспадарчая пабудова для захавання і абмалоту збожжа, — бадай што самая вялікая па памерах сярод сядзібных памяшканняў. Звычайна мела некалькі варот, праз якія можна было заехаць з возам. У цэнтры гумна быў выбіты ток для малацьбы, па баках — засторонкі, дзе складалі снапы. Мела высокую страху, якая апускалася на зруб і падтрымлівалася на некалькіх сохах (слупы з сукаватай развілкай уверсе), пастаўленых у адзін ці два рады. У залежнасці ад рэгіёна і сацыяльных асаблівасцей гаспадаркі, гумны адрозніваліся памерамі, канструкцыйнай формай, унутранымі прапорцыямі, будаўнічымі матэрыяламі, наяўнасцю пры іх паўжылога памяшкання, агнявой сушні для збожжа.

**Сушня** *(асець, восець, еўня, ёўня)* была прызначана для сушкі збожжа ці льну ў снапах. Адпавядае рускаму *авіну*. Будавалася непасрэдна ў гумне або побач з ім. Звычайна мела два ярусы (паверхі): на ніжнім размяшчалася печ-каменка, на верхнім расстаўляліся неабмалочаныя снапы. Еўня ўяўляла сабой больш простую пабудову тыпу лазні. Дарэчы, яна і выкарыстоўвалася таксама як лазня.

**Адрына** *(пуня, сянніца)* служыла для захавання сена, сухіх кармоў, рознага сельскагаспадарчага інвентару; нярэдка сумяшчала ў сабе вазоўню для рабочых вазоў і выязных экіпажаў. Уяўляла сабой прасторную зрубна-каркасную пабудову з шырокімі варотамі. Для захавання сена ўладкоўвалі і *абарогі (стажарня, балясоўка)* — стрэшкі на чатырох бакавых слупах, што маглі рухацца па жаданні гаспадара ў залежнасці ад вышыні складзенага тут сена.

У планіроўцы сядзібных забудоў не было строга вызначаных канонаў. Кожны гаспадар улічваў мэтазгоднасць, функцыянальнасць, узаемасувязь і лагічную паслядоўнасць асобных пабудоў і ўсяго архітэктурнага ансамбля, узгадняў іх з канкрэтнымі тэхналагічнымі і экалагічнымі патрабаваннямі, эстэтычнымі ўяўленнямі і вераваннямі, якія складалі традыцыйную аснову народнага дойлідства.

## Не ўпісаліся ў сацыялізм

Калектывізацыя сялянскіх гаспадарак, якую некаторыя даследчыкі лічаць «па сутнасці мэтанакіраваным знішчэннем сялянскага класу», істотна змяніла лёс сялянскіх сядзіб. Традыцыйны двор, які быў апрабаваны векавой практыкай, згубіў падсобныя гаспадарчыя памяшканні. Яны назаўсёды выпалі з сядзіб і парушылі архітэктурнае аблічча вёскі.

Выпалі яны не самі па сабе. Клеці і свірны са збожжам, гумны, асеці, адрыны, вазоўні, прамысловыя памяшканні, паводле новай савецкай ідэалогіі, лічыліся прыкметай кулацкіх гаспадарак, якія нібыта замінalі будаўніцтву камунізму... Міжволі прыходзяць на памяць словы вядомага даследчыка, аўтара «Дарогі ў рабства», Нобелеўскага лаўрэата па эканоміцы Фрыдрыха фон Хайека, які зрабіў параўнальны аналіз эфектыўнасці розных форм гаспадарак. Ён пераканаўча паказаў сапраўдную ролю традыцыйнай сям'і і прыватнай уласнасці, зрабіўшы выснову, што мэтай сацыялізму якраз і была дыскрэдытацыя традыцыйных каштоўнасцей. «Мы часта думаем, — пісаў ён яшчэ ў 1944 годзе, — калі наша памкненне да сацыялізму прадыктавана высокімі маральнымі матывамі, то і само грамадства, заснаванае на прынцыпах калектывізму, стане асяродкам дабрадзейнасці. А між тым незразумела, чаму сістэма павінна валодаць тымі якасцямі, што і маральныя матывы, якія яе ініцыявалі».

# Рыфмы і рытмы на скрыжаванні сюжэтаў

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Адно з модных месцаў сталіцы — кавярня «Утопія 60» — стала месцам правядзення жывой прэзентацыі альбома «Bulbahuana» авангарднага трыа «Buben-Naruczewicz-Baisan».**



Прэзентацыя альбома адбылася ў межах праекту «Beat Cafe», ініцыятарам якога выступіў вядомы беларускі культуролаг, журналіст і выкладчык Максім Жбанкоў. У рамках праекту «Beat Cafe» Максім Жбанкоў ладзіць live-падкасты — робіць запіс аўтарскіх тэкстаў з музычным суправаджэннем для трансляцыі іх у сеціве.

Як падкрэсліў Максім Жбанкоў, ідэя правесці прэзентацыю дыска ва «Утопія 60» з удзелам Улада Бубна (электроніка), Лявона Нарушэвіча (гітара) і паэта Алеся «Байсана» Плоткі ўзнікла таму, што гэтая кавярня ўжо стала важным культурным асяродкам. Тут у рамках праекту «Beat Cafe» адбываюцца не толькі згаданыя вышэй падкасты, але і творчыя прэм'еры аўтараў, якія не маюць магчымасці збіраць вялікія залы, але з'яўляюцца таленавітымі літаратарамі і выканаўцамі.

«Іх нефармальныя творы маюць права знаходзіць свайго слухача, бо гэта частка нашага сённяшняга нацыянальнага культурнага працэсу і кантэксту. Таму сёння госцем праекту "Beat Cafe" будзе авангарднае трыа "Buben-Naruczewicz-Baisan"», — падкрэсліў Жбанкоў.

Цэнтрам прэзентацыі стала паэтычная творчасць Алеся «Байсана» Плоткі — лаўрэата прэмій часопіса «Дзеяслоў», «Залаты апостраф», дыпламанта прэміі Беларускага ПЭН-цэнтру, аўтара паэтычнага зборніка «Байсан».

Як завязалася супрацоўніцтва з музыкантамі, распавядае Алесь Плотка: «З тым жа Уладам Бубнам мы супрацоўнічаем даўно ў рамках праекта «Танцы з Бубнам». Выпусцілі такія супольныя альбомы, як «В-52» і «Medication». Але нам стала сумна, і мы пачалі шукаць трэцяга. Знайшлі Лявона Нарушэвіча — музыку вядомага, імправізатара. З ім



стала значна весялей: цяпер мы можам ствараць нешта нечаканае. Разам мы запісалі гэты эксперыментальны альбом, да таго ж, нам сталі больш цікавыя «жывыя» канцэрты, бо з імправізацыйнай гітарай Лявона атрымліваецца кожны раз усё па-новаму.

Што тычыцца паэзіі, то вершы з першых альбомаў, якія мы рабілі з Уладам Бубнам, мелі пераважна больш грамадскае гучанне. Альбом «Bulbahuana» адрозніваецца лёгкім эскапізмам, калі чалавек сыходзіць у свой унутраны свет».

Сваімі думкамі накont новага альбома і супрацоўніцтва з Уладам Бубнам і Алесем Плоткам з нашымі чытачамі дзеліцца лідар гурту інтуітыўнай і імправізацыйнай музыкі «Князь Мышкін» Лявон Нарушэвіч: «У рамках праекту «Beat Cafe» ужо некалькі раз праходзілі выступы маладых беларускіх паэтаў, якія чыталі свае вершы пад музыку. І ў нас з Уладам ёсць такі паэт, чыя творчасць супадае з нашым светаадчуваннем — Алесь «Байсан» Плотка. Вынікам нашай агульнай працы стаў альбом «Bulbahuana», а таксама канцэрты з гэтай праграмай. Не так даўно мы прэзентавалі наш альбом у Нацыянальным цэнтры сучаснага мастацтва.

Гэта ўжо пяты паэт, з якім я супрацоўнічаю як імправізатар. Першы быў Ярыла Пшанічны (1973–2015), а затым супрацоўнічаў з Віктарам Сямашкам, Дзмітрыем Строцавым і Сяргеем Вераціламі. Так што супрацоўніцтва з Алесем — працяг добрай творчай традыцыі».

Трэба адзначыць, што не ўсе слухачы яшчэ прызвычаіліся да таго, каб адначасова асэнсоўваць паэтычныя сімвалы і метафары і іх суаднясенне з музычным суправаджэннем. Але праз некаторы час усё стала на свае месцы: прысутныя змаглі адчуць разумовы і эмацыянальны «меседж» экспрэсіўных радкоў Плоткі з трэкаў новага альбома «Bulbahuana» — «Гармата», «Верлібр Маўчанне», «Муза», «У сэрцы тваім», а таксама асобных кампазіцый, кшталту «Розы вуліца», «Ты застаешся гламурным ліцвінам…», «Plus 375» і ўспрыняць іх музычную аздобу.

Цяпер музыканты адыходзяць ад CD-фармату і накіроўваюць слухачоў у інтэрнэт. А хацелася б мець у сваёй калекцыі запісы з такімі цікавымі музычна-вершаванымі экзерсісамі!



# Варшаўскія рэліквіі Радзівілаў прыехалі ў Беларусь

Алесь КІРКЕВІЧ

**Выстава «Радзівілы: лёсы краіны і роду» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Тут можна ўбачыць як рэчы з калекцыі нашчадкаў роду, якія жывуць у Польшчы, так і скарбы, якія захоўваюцца ў нашай краіне.**

Сёлетнюю выставу смела можна назваць унікальнай: ці не ўпершыню ад 1939 года, пасля якога скарбы славутага роду пачалі разыходзіцца па ўсім свеце, на адной пляцоўцы на тэрыторыі Беларусі сабраныя рэліквіі Радзівілаў з розных збораў: як беларускіх, так і замежных. Частка экспанатаў, прывезеная з Польшчы, належыць Мацею Радзівілу, паспяховаму камерсанту і калекцыянеры, ды князёўне Ганне Марыі Чартарыйскай. Беларускія экспанаты паходзяць са збораў Нацыянальнага мастацкага музея ды Нацыянальнай бібліятэкі.

На экспазіцыі, якая змясцілася ў дзве музейныя залі, можна ўбачыць сармацкія партрэты, гравюры, старадрукі, вырабы слуцкіх мануфактур, памятныя медалі з каштоўных металаў, прысвечаныя прадстаўнікам магнацкага роду.

Знаўцы гісторыі ды аматары з лёгкасцю пазнаюць легендарную Барбару Радзівіл, партрэт якой вісіць адразу ля ўваходу, яе бацьку — Юрыя Радзівіла, вайсковага генія ВКЛ, Мікалая Радзівіла Сіротку, заснавальніка Нясвіжскай рэзідэнцыі, Міхала Радзівіла Рыбаньку, Пане Каханку ды іншых.

Пра знакамітыя слуцкія мануфактуры, заснаваныя тым самым Радзівілам Рыбанькам, на выставе сведчаць кунтушовы пояс ды макета — абодва прадметы з брэндавай для таго часу пазнакай «Слуцк» на акрайчыку. Цікава, што шкляныя вітрыны зробленыя такім чынам, што глядач можа бачыць адваротны бок рэліквій у люстэрку.

Тут жа прадстаўленая дакладная запіска начальніка архіўнага ўпраўлення НКВД БССР аб вывазе архіву князёў Радзівілаў у г. Трапаў 14 чэрвеня 1945 года: сумнае сведчанне канца гісторыі магнацкага роду на тэрыторыі Беларусі і размантачвання яго збораў і рэліквій на Усход і Захад.

Выстава яшчэ раз нагадвае пра моц і неймаверную энергетыку Радзівілаў, якія пакінулі след у гісторыі ўсіх народаў Рэчы Паспалітай, а таксама падкрэслівае інтэграцыйную функцыю культуры, якая ў наш час здольная працаваць на збліжэнне нацый і краін — Беларусі і Польшчы, у дадзеным выпадку.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 183

Падпісана да друку 24.02.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.